14 жніўня 2020 | № 30 (689)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Ад санкцый да заклiку падаць у адстаўку**

Стар. 8

**3** **«АДДАЙЦЕ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ!»**

На завулку Акрэсціна ў Мінску дзясяткі людзей спрабуюць даведацца пра затрыманых блізкіх

**5** **УСЁ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА!**

Змены адбудуцца хутчэй, чым нам уяўляецца




**6 – 7** **«КАЛІ ГАЛАВА «ПУХНЕ» АД РАКУ, НА КАВІД УЖО НЕ ХАПАЕ СІЛАЎ»**

Пандэмія каронавіруса часткова пазбавіла хворых на рак своечасовай дыягностыкі і лячэння

**10** **САМЫЯ МАСАВЫЯ АКЦЫІ ПРАТЭСТУ Ў БЕЛАРУСІ ЗА АПОШНІЯ 30 ГАДОЎ**




# Мы маем шанец на новае грамадства

*Глеб РУБАНАЎ*

**Усё мае сэнс. Усё мела сэнс. І гэта не словы штучнага суцяшэння тым, хто адчувае расчараванне ад падзей 9 жніўня. Гэта квінтэсенцыя адчування таго беспрэцэдэнтнага працэсу, што адбываецца на нашых вачах.**

Афіцыйныя лічбы перамогі ў «выбарах» і «недапушчэнне сілавога перавароту» вадамётамі-аўтазакамі — здавалася б, ёсць падвойнай, сакрушальнай перамогай рэжыму. І так было б, калі б барацьба, як у папярэднія дзесяцігоддзі, вялася выключна ў плоскасці кантролю за штурвал дзяржаўнага апарату.

Але сёлета барацьба перайшла ў іншае вымярэнне. Так, кіраўнік дзяржавы ўтрымаў кантроль над дзяржаўнай машынай, што ў ранейшыя гады аўтаматычна значыла кантроль над грамадскім жыццём. Людзі ў аўтарытарнай дзяржаве не мелі суб'ектнасці, іх паводзіны ў грамадстве вызначаліся выключна дзяржаўнымі рэгламентамі і здольнасцю карнага апарата прымусіць да выканання гэтых рэгламентаў.

Тут і цяпер паўстае новае вымярэнне барацьбы — за выхад грамадскіх стасункаў з-пад кантролю аўтарытарнай дзяржавы і права людзей самастойна і непасрэдна рэалізоўваць свае неад'емныя грамадзянскія правы. У тым ліку, правы на свабоду сходаў і абрання прадстаўнічай улады шляхам мірнага галасавання на выбарчых участках. А ў гэтай барацьбе рэжым не атрымаў пакуль ніякай перамогі, не кажучы ўжо пра пераканаўчую.

Усё мае сэнс. І адмова ад гвалту. І дэцэнтралізаваныя мірныя пратэсты. І самаарганізацыя без лідараў. І нават — у гэтых умовах — галасаванне на імітацыйных выбарах.

Тое, што адбывалася ў гарадах Беларусі пасля закрыцця ўчасткаў, — гэта не барацьба «хто каго» ў сілавым супрацьстаянні, кароткім, як бой на рынгу. Гэта наўпроставая і непасрэдная рэалізацыя права на свабоду мірных сходаў, насуперак прымусу.

Тое, што адбывалася на ўчастках, — у першую чаргу спроба непасрэднай рэалізацыі права абіраць прадстаўнічую ўладу. Спроба выкарыстання механізмаў галасавання па непасрэдным прызначэнні, насуперак татальнаму кантролю рэжыму за арганізацыяй працэсу. Тое, што максімальнай колькасці людзей сталі відавочны механізмы імітацыі, — пазітыўны, але ўзбочны эфект.

Усё мела сэнс. Радыкалізм і памяркоўнасць. Вера і недавер. Агітацыя за ўдзел і за байкот. І ўвесь фантастычны варушняк апошніх месяцаў — палітычная кампанія ў краіне без палітыкі, «выбары» ў краіне без выбарчай сістэмы. І адчайнае змаганне радыкалаў, дысідэнтаў, актывістаў, праваабаронцаў, журналістаў папярэднія 25 гадоў.

Усе зерні грамадскай актыўнасці, якія сеяліся кожным неабыякавым чалавекам у розныя часы і з розных нагодаў, пачынаюць прарастаць праз асфальт цяпер усе разам.

Мы маем шанец на новае грамадства. Я адчуваю, што надзея пачынае спраўджвацца. Як і належыць сапраўднай надзеі, спраўджвацца яна пачынае акурат тады, калі ўжо амаль забытая — але яшчэ канчаткова не забітая.

Падобна, што палітызацыя стэрыльнага, дэпалітызаванага за дзесяцігоддзі грамадства дае шанец на канчатковы выхад з абдымкаў таталітарнай парадыгмы. Той самай, шкодная спадчына якой пранізвае не толькі «іржавую дзяржаву», але і грамадскае, і прыватнае жыццё — траўмуе душы, атамізуе асобаў, стрымлівае здольнасць камунікаваць і ствараць супольна.


Фота www.tut.by

> **Сярод беларусаў яшчэ шмат хто не разумее — за тое, што адбываецца, віна ляжыць на іх: маўчалі, дазволілі, цярпелі**

У нас як грамадзянскай супольнасці ёсць шанец на ўваход у тыя дзверы, якія дагэтуль падаваліся такімі далёкімі. Дзе пратэст — гэта найперш непадпарадкаванне прымусу, а не рэпетыцыя ўзброенай бітвы за ўладу. Дзе «нас шмат» — гэта не «мы вас задавім», а «нас не загнаць у куты паасобку».

Дзе «аб'яднанне» — гэта не пра ўніфікацыю ўсіх грамадзян пад адзіна правільную ідэю, рэжымную ці антырэжымную. А пра аб'яднанне высілкаў — там, дзе магчыма іх аб'яднаць, пры захаванні розных прынцыпаў і поглядаў.

Дзе адрознасць пазіцыяў і поглядаў — не нагода для падзелу, а цудоўны шанец пабудаваць новае супольнае бачанне і ўраўнаважваць адно аднаго. Дзе словы маюць літаральнае значэнне, а не ёсць агітацыйным камуфляжам схаваных сэнсаў. Дзе «грамадства» — гэта супольнасць самастойных суб'ектаў, а не рэсурс палітыка. Дзе людзі, а не дзяржава і не палітыкі вырашаюць, як жыць.

Дзе заклік «разыходзімся» значыць не «спыняемся і чакаем новых загадаў у іншы дзень», а «разыходзімся і арганізуемся самастойна». Дзе барацьба з рэжымам вядзецца не за ўладу, а за каштоўнасці. І дзе каштоўнасцю ўпершыню для відавочнай большасці грамадзян Беларусі стаў сам прынцып «перамен», а не «стабільнасці».

Не ўсё так ружова. На шляху нараджэння новага грамадства ёсць немінучыя і страшэнныя небяспекі. Адсутнасць масавага імунітэту да папулізму і прапаганды, несфарміраванасць супольных каштоўнасцяў, пагроза незалежнасці, маніпулятыўныя гульні з розных бакоў. Урэшце, нікуды пакуль не падзелася аўтарытарная сістэма, якая несумяшчальная з самастойнай грамадзянскай супольнасцю.

Але пра дрэннае — не сёння. Яшчэ нічога не гарантавана, але цяпер шмат што магчыма. Разам — працягнем рух!

Дзякуй усім, хто не збаяўся выходзіць. Дзякуй тым, хто на мяжы фолу штурхануў гэтае балота, скарыстаўшы ўсе наяўныя механізмы, перакуліўшы ўсе сэнсы, запусціўшы здаровыя працэсы. Дзякуй тым, хто неабыякавы. Дзякуй тым, хто не здаваўся, і тым, хто не здасца.

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

# Гарачая лінія ПЦ «Вясна» на выпадак затрыманняў

**Апошнім часам у сувязі са шматлікімі затрыманнямі колькасць зваротаў у праваабарончы цэнтр «Вясна» павялічваецца. Таму «Вясна» адкрывае новыя тэлефоны гарачай лініі.**

Калі вас альбо вашага блізкага затрымалі, звяртайцеся ў ПЦ "Вясна" па наступных кантактах:

**Тэрміновы прыём** інфармацыі і тэрміновае кансультаванне па затрыманнях:

- Тэлеграм @ViasnaSOS +375 29 543 38 66
- Вайбер па нумары +375 29 543 38 66
- Мабільны тэлефон гарачай лініі «Вясна SOS»: +375 29 543 38 66
- «Гарадскія» нумары: +375 17 377 55 40, +375 17 394 63 11

**Нетэрміновыя звароты:**

- Грамадская прыёмная: +375 29 841 39 81 (WhatsApp, Signal, Тэлеграм @Viasna).

Калі вас затрымалі або вы сталі сведкам затрымання, калі ласка, тэрмінова звярніцеся на гарачую лінію «Вясна SOS» і паведаміце:

- імя і прозвішча затрыманага;
- калі і дзе адбылося затрыманне;
- ці ўжываўся гвалт, дзе знаходзіцца (хаця б меркавана) затрыманы;
- ці адносіцца ён да ўразлівых групаў (інваліднасць, цяжарнасць, іншаземец, мае малых дзяцей ці старых бацькоў т.п.), альбо з'яўляецца журналістам.

Вам падкажуць:

- дзе можна шукаць затрыманых;
- дзе можна пабачыць спісы затрыманых;
- чаго чакаць у бліжэйшы час і якім чынам можна дапамагчы затрыманым, у выпадку арышту — чаго чакаць ад магчымага суда, як да яго падрыхтавацца.

Калі вас затрымалі ў рэгіёнах краіны, то звяртайцеся па кантактах адпаведнага гораду.

**Брэст**
Уладзімір Вялічкін: + 375 29 722 35 41
Ганна: + 375 33 304 60 78
Уладзімір Малей: + 375 29 522 06 07
Email: brestspring@gmail.com або задайце пытанне юрысту
Сайт: http://brestspring.com

**Віцебск**
Леанід Свецік: + 375 29 314 50 45
Сайт: http://vitebskspring.org

**Орша**
Ігар Казмерчак: + 375 29 711 95 45; + 375 44 711 95 45
Email: kajzer1984@gmail.com

**Гродна**
Віктар Сазонаў: + 375 29 699 11 25
Уладзімір Хільмановіч: + 375 33 686 50 42
Сайт: http://harodniaspring.org

**Баранавічы**
Сяргей Гоўша: + 375 29 722 09 57
Аляксандр Вайцешык: + 375 33 312 33 79
Email: avoiteshik@gmail.com

**Бабруйск**
Сяргей Лацінскі: + 375 29 120 66 53

**Барысаў**
Алег Мацкевіч: + 375 25 533 15 07

**Магілёў**
Аляксей Колчын: + 375 29 624 92 72
Барыс Бухель: + 375 29 133 75 50
Сайт: http://mspring.online/

**Мазыр**
Уладзімір Целяпун: + 375 29 230 57 28
Email: viasnamazyr@gmail.com

**Маладзечна**
Алесь Капуцкі: + 375 44 792 36 88, + 375 33 602 19 74
Email: molodeczno2012@gmail.com

**Наваполацк**
Зміцер Салаўёў: + 375 29 755 53 16
Email: spring_lake2004@yahoo.com

**Светлагорск**
Алена Маслюкова: + 375 29 132 43 85

**Смаргонь**
Алесь Дзергачоў: + 375 29 336 20 62

**Гомель**
Андрэй Стрыжак: +375 44 510 05 11, +375 29 734 14 99
Леанід Судаленка: + 375 29 654 70 11
Сайт: http://gomelspring.org/

**Рэчыца**
Валер Пуціцкі: + 375 29 351 79 78
Мікола Пытлеў: + 375 29 304 82 39

**Бяроза**
Тамара Шчапёткіна: + 375 29 522 17 59
Сяргей Русецкі: + 375 29 223 40 84
Email: venikby@gmail.com

# Усенародная любоў? Не, усеагульная нянавісць

Аксана КОЛБ

**Якіх толькі версій пратэстаў мы ні пачулі ад Лукашэнкі. Але праўда ў тым, што адзінай прычынай масавых пратэстаў па ўсёй Беларусі стала ўсеагульная нянавісць. Да яго і яго хлусні.**

Тое, што цяпер адбываецца ва ўсіх гарадах нашай краіны, улады называюць масавымі беспарадкамі, але гэта масавае адраджэнне годнасці беларусаў. Яны нарэшце не проста захацелі «людзьмі звацца», яны захацелі імі быць.

Але Лукашэнку і яго памагатым не патрэбныя годныя людзі, ім не трэба тыя, хто можа думаць, умее прымаць рашэнні і нясе адказнасць за сябе і свае ўчынкі. Ім патрэбны паслухмяны статак. Менавіта таму гэтымі днямі на вуліцах беларускіх гарадоў сілавікі ваююць з народам.

Ваююць па-сапраўднаму, па-майстэрску выкарыстоўваючы дручкі, шумавыя гранаты, пакуль гумовыя кулі... Ваююць так, нібыта яны — наёмнікі, а не сыны беларускія. Так, нібы іх мізэрныя (па нармальных мерках) заробкі вартыя жыццяў і здароўя людзей. А можа, таму яны так шчыруюць, што, як і іх гаспадар, ненавідзяць годных людзей?

Ненавідзяць люта, бо ім ніколі не стаць такімі ж. Свабоднымі, смелымі, годнымі! «Кожны дзень!» — скандуюць пратэстоўцы. Кожны дзень яны будуць выходзіць на вуліцы родных гарадоў, пакуль Лукашэнка не сыдзе. Кожны дзень яны будуць рызыкаваць сваёй свабодай, здароўем і нават жыццём, дзеля лепшай долі. Дзеля таго, каб больш не чуць з экранаў ТБ хлусню і абразы. Дзеля таго, каб нарэшце пачаць будаваць новую Беларусь. Краіну, дзе каштоўнасцю будуць гонар і годнасць, а не ліслівасць і прыніжэнне.

Да гэтай новай Беларусі мы ідзем ужо 26 гадоў. Мы выгадавалі дзяцей, дачакаліся ўнукаў. Здавалася б, хопіць трызненняў, хопіць марыць. Жывіце ў тым лайне, якое вам прапануюць, ці з'язджайце. Дык вось не! Гэта наша краіна. Мы тут застанёмся. Сыходзь, даўно няма ніякай усенароднай любові, засталася толькі ўсеагульная нарастаючая нянавісць.

# Дыктатар супраць Беларусі

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

**Калі пра сваё вылучэнне на «выбары» абвясцілі спачатку Валерый Цапкала, пасля Віктар Бабарыка — да аптымізму з гэтай нагоды я, шчыра кажучы, паставіўся досыць скептычна. Проста таму, што яны казалі пра намер здабываць перамогу менавіта на выбарах — а выбараў у Беларусі няма пасля антыканстытуцыйнага перавароту пад выглядам «рэферэндуму» 1996 года.**

Апошнія выбары, якія, хаця з парушэннямі і адміністрацыйным рэсурсам, былі ўсё ж рэальнымі выбарамі — на якіх лічылі галасы — адбыліся ў 1995 годзе (парламенцкія). А апошнія прэзідэнцкія выбары — яны ж і першыя — у 1994, калі Лукашэнка адзіны-адзінюткі раз выйграў сумленна.

Нагадаем, што перад «рэферэндумам–96» Лукашэнка, наўпрост найгрубейшым чынам парушыўшы Канстытуцыю, прызначыў старшынёй Цэнтрвыбаркама бабруйскую непрыкметную Лідзію Ярмошыну — якая ад таго, што мінулі 23 гады, больш законнай на гэтай пасадзе не зрабілася. Прызначыў менавіта дзеля таго, каб ніякіх выбараў ды рэферэндумаў у Беларусі насамрэч не было — адно іх імітацыя. Каб не выявіць, а схаваць рэальнае волевыяўленне грамадзянаў. Каб улада дыктатара больш не змянялася.

Стаўка на выбары як такія падавалася наіўнай.

Здаецца, так разважала і ўлада. Сяргея Ціханоўскага — папулярнага блогера, які мог разварушыць сітуацыю, заклікаючы да масавых пратэстаў, — за дзень да абвяшчэння даты «выбараў» пасадзілі адбываць «суткі» за снежаньскія акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй. Дзеля таго, каб пазбавіць яго магчымасці падаць дакументы ў Цэнтрвыбаркам. Выключна з гэтай прычыны кандыдаткай стала Святлана Ціханоўская.

Але, як высветлілася з далейшага, якраз гэтая наіўнасць і зварухнула грамадства.

Банкаўскі менеджар, мажны, мірны, з сардэчкам у якасці эмблемы, звяртаецца да суграмадзянаў па падтрымку на выбарах (якіх няма). І выявілася, што суграмадзяне якраз гэтага і хочуць! У нармальных дзяржаўных сістэмах так і ёсць: прэзідэнт — гэта наняты менеджар, улада якога натуральна абмежаваная і які рэгулярна змяняецца на выбарах. А не нейкі там звар'яцелы «бацька», які робіць, што левая нага захоча.

Дэманстратыўна безадказнае стаўленне да пандэміі сталася, відаць, апошняй кропляй — але ж далёка не адзінай. Гэта проста вельмі выразна выявіла канкрэтную небяспеку сітуацыі, як сівалапаму дыктатару, далёка, мякка кажучы, не сямі пядзяў у ілбе, — усё падуладна.

Людзям элементарна надакучыла. Нарэшце і ўрэшце.

Нездарма практычна гімнам зрабілася песня «Перемен!», створаная Віктарам Цоем больш за 30 гадоў таму, напярэдадні скону савецкай сістэмы, якая шмат каму ўяўлялася непарушнай — што там дыктатурка Лукашэнкі. Апошняя робіць адзінае, што яна ўмее, — гэта хлусня і скарыстанне грубай сілы. Па сутнасці, вайна дыктатара з народам Беларусі.

А грамадзяне Беларусі хочуць простых рэчаў. На выбарах — на самай справе выбіраць.

Святлана Ціханоўская з самага пачатку была падкрэслена тэхнічным кандыдатам. Галоўная задача якой — забяспечыць свабодныя сумленныя выбары. І гэта вельмі шмат.

Лукашэнка круціцца, як вужака на патэльні, вярзе нешта пра нейкіх невядомых «лялькаводаў», задае рытарычныя пытанні людзям, ці гатовыя яны перадаць «гэтую Канстытуцыю» ў іншыя рукі. Ды гатовыя! Толькі не ў тыя, у якіх яна цяпер! Хаця б таму, што ўявіць Ціханоўскую дыктатаркай — на гэта нават у лукашысцкага агітпропу фантазіі не хапіла.

Раней Лукашэнка гаварыў пра пакаленне, якое нарадзілася і вырасла за ягонай уладай. Так, яно ёсць, але гэтая ўлада яму дужа не падабаецца.

Маладыя людзі не разумеюць, чаму грамадзяне краіны не могуць абіраць на выбарах сваю ўладу. Чаму можна затрымліваць, напрыклад, раварыстаў, ці тых, хто стаіць у чарзе, каб падаць заяву за кандыдата. І сваё неразуменне гэтага яны цяпер выказваюць у даступнай форме.

Дый не толькі ж гэтаму пакаленню. 40-гадовыя мужыкі ў інтэрнэце з тугой пісалі: «Мы за ўсё жыццё ніводнага разу не ўдзельнічалі ў свабодных сумленных выбарах!» І выдатна ўсведамлялі, што гэта ненармальна.

А людзі ж не ў вакууме жывуць. Ведаюць, за каго галасавалі ў большасці сваёй іх сябры, сваякі, суседзі. Дый ёсць яшчэ інтэрнэт, куды таксама пішуць жывыя людзі (як яго ні перакрывай). Ніякімі лічбамі, намаляванымі Ярмошынай, гэтага не скасуеш. Кіроўны рэжым, дарэчы, спалохаўся якраз электаральнай паразы — пабачыўшы шматгадзінныя чэргі, каб паставіць подпісы за альтэрнатыўных кандыдатаў. Лукашэнка лепятаў пра нейкія «каруселі», але якія ж каруселі, калі людзі стаяць са сваімі пашпартамі, подпісы правяраюцца. Лепш бы ўцяміць: людзі жадаюць змены ўлады.

А вось у падтрымку Лукашэнкі — толькі тыя, хто па службе.

Не за асобу Ціханоўскай, а за свабоду супраць бяспраўя, супраць дыктатуры выходзяць людзі. А ў навінах БЕЛТА ды «Советской Б.» — якія ў інтэрнэце адкрываюцца без перашкодаў — на першым месцы «Лукашэнка сабраў нараду па актуальных пытаннях развіцця харчовай прамысловасці». Тыпу таго, што «ў Багдадзе ўсё спакойна»... Дарэчы, і за дыктатурай Садама Хусейна ў Багдадзе было «ўсё спакойна». А пасля дыктатара павесілі...

# «Аддайце нашых дзяцей!»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ужо некалькі дзён запар каля ізалятара на завулку Акрэсціна ў Мінску збіраюцца сотні людзей, якія спрабуюць даведацца інфармацыю пра затрыманых блізкіх. Час ад часу за браму турмы заязджаюць машыны хуткай дапамогі, а таксама ваенныя, што надае яшчэ больш драматызму і без таго распаленай сітуацыі.**



**Людзі ля ізалятара на Акрэсціна чакаюць звестак пра сваіх блізкіх**



**У ізалятар выклікалі хуткую дапамогу**

Пасля другой ночы пратэстаў 11 жніўня пад сценамі ІЧУ/ЦІП сабралася больш за сотню чалавек. У асноўным — жанчыны: маці, жонкі, нявесты, сёстры. Другі дзень запар яны спрабуюць даведацца нешта пра сваіх затрыманых блізкіх, але большасць так і не атрымлівае ніякай інфармацыі. Валанцёры складаюць спісы затрыманых і перадаюць іх дзяжурным міліцыянтам. У адказ тыя абяцаюць прадаставіць спісы людзей, якія ўтрымліваюцца на Акрэсціна, але не робяць гэтага.

— За два дні мы ўжо запісалі каля 1000 чалавек. Учора мы чакалі да дзвюх гадзін ночы, і нам удалося пацвердзіць 48 прозвішчаў, — распавяла «Новаму Часу» адна з дзяўчат, якія складалі спісы. Ёй самой пакуль не ўдалося нічога высветліць пра сваіх затрыманых знаёмых.

Сына Алены Струкавай Аляксея затрымалі пасля выбараў, у ноч на 10 жніўня.

— У тры гадзіны ночы ён развітаўся з сябрам каля Камароўкі. Я не ведала, што яго затрымалі, а сябра не мог да яго дазваніцца. Я, ні пра што не падазраючы, патэлефанавала яму ў гадзіну дня. Спачатку доўга не здымалі, а потым знялі, але не адказвалі. Толькі пасля я зразумела, што яму неслі тэлефон. Ён паспеў мне сказаць: «Я ў міліцыі, кладзі слухаўку». Мы нават не ведаем, дзе ён, цяпер паедзем у РАУС па месцы прапіскі. Але кажуць, што тых, каго бралі пасля трох гадзін ночы ў цэнтры горада, завезлі ў Жодзіна.

Адна з жанчын сама падыходзіць да карэспандэнта НЧ і пачынае распавядаць сваю гісторыю. Яе завуць Ірына Багданава, а палове на другую ночы 10 жніўня затрымалі двух яе сыноў — Уладзіслава і Станіслава.

— Мы сустрэліся з імі на скрыжаванні Ціміразева і Кальварыйскай. Да гэтага часу ўжо ўсіх разагналі, і мы накіраваліся дадому па мосце. Гэта была нашая памылка: за мостам нас ужо чакаў АМАП. Калі пачаліся стрэлы, я схавалася за слуп, і мы з дзецьмі згубіліся. Мяне ўкладваў тварам уніз чалавек у шэрай форме і ў шлеме. Мне здалося, што ён размаўляў на чыста рускай мове, як расіянін. Мы не размаўляем так. Ён лаяўся матам: «С*ка, бл***, ляжаць!». Потым іншы кажа: «Паднялася, сышла!». Я паднялася, а іншы кажа — усё роўна ляжаць. Я ляжала. Маёй сяброўцы ў галаву зарадзілі берцам. Потым мяне акуратненька ўзялі за шкірку і засунулі ў аўтазак. У аўтазаку куча людзей у крывішчы, душна. Пяць хвілін я там пасядзела, сваіх дзяцей не знайшла, і нам з сяброўкай сказалі: «На выхад».

Толькі на наступны дзень у 15.30 стаў даступны тэлефон старэйшага сына. Ён сказаў, што падпісаў усе дакументы: ніякіх прэтэнзій да АМАПу не мае, прызнае, што ўдзельнічаў у мітынгу. Ён падпісаў пратакол і яго адпусцілі. А малодшага — яму 19 — чамусьці не адпускаюць, хаця мы дамовіліся падпісваць усё. Апошні раз брат бачыў яго тут, у ІЧУ, ён сказаў, што яны былі ўдваіх у камеры, усяго ў ёй было 15–25 чалавек на пяць ложкаў. А ўвогуле, Улад казаў, што там тысячы людзей.

Ірына распавядае, што ў нейкі час тэлефон малодшага сына стаў даступны, але яна зразумела, што яго ўключылі міліцыянты.

— Я стала пісаць СМС, што я — яго маці, што перамога будзе за намі, міліцыя з народам. Але потым, відаць, батарэя села, і тэлефон зноў стаў недасяжны.

Жанчына ўжо трое сутак не спіць і не есць, і ледзьве стрымлівае слёзы. Але ўсё роўна збіраецца стаяць пад ізалятарам да таго часу, пакуль не ўбачыць сына.

— У РАУСе ніякай інфармацыі не даюць, да ЦІП і ІЧУ не дазваніцца, у Жодзіна таксама ніхто не падыходзіць. Гэта генацыд свайго народа, я лічу, — гаворыць Ірына Багданава.

Таксама жанчына распавядае пра праваахоўнікаў, якіх бачыла на акцыі ў ноч пасля выбараў: яны носяць на руках белыя павязкі, але пры гэтым перагаворваюцца па рацыях. Некаторыя з іх заклікалі натоўп ісці ў пэўным кірунку, а пасля аказвалася, што там людзей ужо чакаў АМАП.

Сярод прысутных ля ізалятара — і жонка палітыка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч. Яе муж цяпер знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага, на яго распачатая крымінальная справа. Спадарыня Марына прыехала даведацца, ці ёсць тут хто з яе знаёмых, падтрымаць родных затрыманых, а таксама заклікаць іх да самаарганізацыі.

— Я проста прашу людзей — аб'ядноўвайцеся, аб'ядноўвайцеся каля судоў, бо інакш — ніяк, — гаворыць Марына Адамовіч.

Тым часам да ізалятара пад'ехала машына хуткай дапамогі. Медыкаў запусцілі на тэрыторыю ІЧУ. Праз нейкі час машына выехала, але людзі заблакавалі ёй шлях, каб даведацца, каму прыехалі аказваць дапамогу. Пасля патрабаванняў медыкі здаліся і назвалі прозвішча чалавека — Здор, дадаўшы, што шпіталізацыя яму не спатрэбілася. Раней з ізалятара выязджала яшчэ адна машына хуткай, удалося даведацца, што на ёй вывезлі Уладзіміра Вераценіка.

Але былі гісторыі, калі праз траўмы затрыманых вызвалялі. Так адбылося з хлопцам, які стаяў ля ізалятара з перабінтаванай левай рукой.

— Перакрылі ўсе дарогі, на вуліцы Валадарскага ўзялі ў ачапленне. Я ўзняў рукі, каб бачылі, што я не супраціўляюся, але наляцела чалавек пяць і сталі збіваць, а потым прывезлі сюды, — распавядае пра свае прыгоды ў ноч на 10 жніўня Віталь.

Малады чалавек звярнуўся да медыкаў са скаргамі на боль у руцэ, але яму далі толькі таблетку анальгіна. Потым руку зафіксавалі яго ж курткай, і так Віталь прасядзеў чатыры гадзіны. Толькі каля шасці раніцы яго на хуткай завезлі ў бальніцу, дзе наклалі гіпс, а адтуль адпусцілі без складання пратакола. Дакладны дыягназ — ушыб ці ўсё ж пералом — дактары хлопцу так і не паставілі.

— Сёння я з'ездзіў у судовую экспертызу зняў пабоі, учора даваў паказанні следчым, зараз паеду ў Маскоўскі РАУС пісаць заяву аб збіцці.

На вачах карэспандэнта НЧ на тэрыторыю ізалятара заехала некалькі УАЗікаў з людзьмі ў балаклавах, апранутымі ў адзенне колеру хакі. Праз нейкі час гэтыя людзі з'явіліся на даху ізалятара і зверху назіралі за тым, што адбываецца. Па словах прысутных, яны былі на даху і ўчора.

— Мой муж учора ў 12 ночы паспеў даслаць паведамленне, што яго затрымалі, ён у аўтазаку. Але не ведаю, у якім раёне, і не разумею механізму іх далейшых дзеянняў, паводле якога рэгламенту працуе гэтая структура, — распавядае «Новаму Часу» жанчына ў слязах.

— У мяне муж — бацька двух дзяцей, ён не дайшоў дадому, да Грушаўкі. Можа, і добра, бо ў Грушаўцы ўчора тварылася вар'яцтва, дзеці бегалі па балконе і крычалі: «Мама, бандыты!». Чаму мы ніяк не можам на гэта паўплываць? Кандыдат ён, ці хто — чаму ён не выходзіць да людзей пагаварыць? — дадае жанчына, звяртаючыся да кіраўніка краіны.

Сваякі гукарэжысёра Эльдара, які працаваў з беларускімі гуртамі «Крама», Nizkiz, Shuma і іншымі, распавядаюць, што маладзёна затрымалі ў нядзелю на выбарчым участку, дзе ён быў назіральнікам. Яны дасюль не ведаюць, дзе ён.

Нічога не ўдалося даведацца і ад хлопца, які выйшаў з дзвярэй ізалятара. Яго забралі ўчора на вакзале, але адпусцілі, бо ён непаўнагадовы. Маладзён распавядае, што ў камеры іх было 18 чалавек. Прысутныя сталі паказваць яму здымкі сваіх родных на тэлефонах — раптам ён бачыў кагосьці з іх? Але хлопец нікога не пазнаў і неўзабаве сышоў.

Разам з драматычнымі момантамі ля сценаў ізалятара здараюцца і вясёлыя. Так, адна дзяўчына гукнула свайму затрыманаму хлопцу: «Трымайся! Выйдзеш — ажэнімся. Але гэта не дакладна!». Невядома, ці пачуў адрасат, але публіка вітала гэты зварот смехам і воплескамі.

Іншая рэакцыя была на нечаканы выезд з турэмнай брамы некалькіх машын, мяркуючы па плямістай расфарбоўцы, ваенных. Іх людзі праводзілі свістам і крыкамі «Ганьба!».

На гэта тут жа адрэагавалі супрацоўнікі ДАІ, якія па гучнай сувязі са службовага аўтамабіля загадалі прысутным не стаяць на праезджай частцы і на газонах, а таксама не паркаваць ля ізалятара машыны. Але гэтаму заклiку людзі не толькі не падпарадкаваліся, але і сталі гучна абурацца ў адказ: «Аддайце нашых дзяцей — тады мы прыбярэм машыны!»

Грамадскі актывіст Ілля Дабратвор прыйшоў на Акрэсціна, каб перадаць перадачу жонцы Іне. Яе затрымалі ў нядзелю каля Заводскага РАУСа. Яна была назіральніцай на выбарчым участку. Старшыня камісіі адмовіўся даваць выніковы пратакол, жанчына паехала ў тэрытарыяльную камісію — і там яе затрымалі. Суда яшчэ не было, таму пакуль не вядома, як доўга пяцёра дзяцей застануцца без маці. Перадачы пакуль часова не прымаюць ( у час падрыхтоўкі газеты да друку стала вядома, што жонку адпусцілі праз трое сутак, аштрафаваўшы на 20 базавых велічыняў).

Яшчэ ў адной жанчыны сына затрымалі а палове другой ночы з нядзелі на панядзелак, прычым малады чалавек зусім не ўдзельнічаў ні ў якіх акцыях. Ён прывёз сваю нявесту вырваць зуб у дзяжурную стаматалогію на вуліцы Кісялёва. Сам застаўся чакаць яе ў машыне. Калі тая патэлефанавала, што зуб вырвалі, ён выйшаў яе сустракаць. Не паспеў выйсці з машыны — як яго запакавалі ў сіні бус. Жанчыне па месцы прапіскі паведамілі, што сын у ізалятары. Хаця ўчора ёй сказалі, што яго тут няма. Праўда, потым паралі прынесці цёплыя рэчы і ежу, але перадачу так і не прынялі.

Некаторыя людзі праз некалькі гадзін чування пад турэмнымі сценамі сталі разыходзіцца, нехта аб'явіў, што едзе ў Жодзіна, і ёсць вольныя месцы ў машыне. Але засталіся і тыя, хто мае цвёрды намер дачакацца калі не сваіх блізкіх, то хаця б нейкіх звестак пра іх. Відаць, пляцоўка перад ізалятарам яшчэ нейкі час не будзе пуставаць — у другой палове дня сюды павінны былі прывезці затрыманых падчас наступнай ночы пратэстаў. Праўда, куды ўціскваць людзей, відаць, ужо не надта разумеюць нават самі супрацоўнікі ізалятара.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Пра ролю запаснога выхаду ў працы выбаркамаў



**Прагнозы ў палітыцы — справа няўдзячная. Працэнт траплення пальцам у неба слаба звязаны з узроўнем кваліфікацыі прадказальнікаў. Таму не выпадкова адзіны закон, на які можна абаперціся пры вывучэнні сацыяльна-палітычных працэсаў, — гэта закон ненаўмысных наступстваў.**

Палітык можа валодаць неабмежаваным аб'ёмам паўнамоцтваў і рэсурсаў, але рэалізоўваць яго рашэнні даводзіцца мільёнам людзей. І гэтыя мільёны, атрымаўшы каманду зверху, будуць выконваць яе, па-першае, так, як зразумелі, а па-другое — зыходзячы з асабістых інтарэсаў, а не інтарэсаў кіраўніка. Зразумела, існуе тут яшчэ і па-трэцяе, і па-чацвёртае, і... па-пяцідзясятае.

Мне ўжо даводзілася прыводзіць прыклад з наведваннем адзіным палітыкам (АП) Аршанскага льнокамбіната. Ён бываў там тройчы (у 2010, 2014 і 2019 гадах) і кожны раз ставіў задачу разабрацца з колькасцю неабходных краіне льнозаводаў. Падначаленыя пстрыкалі абцасамі, бралі пад казырок, але на вырашэнні задачы гэта ніяк не адбівалася. Воз на тым жа месцы і цяпер. Нібы дрэнным танцорам, падначаленым увесь час нешта перашкаджала. Магчыма, асабістая зацікаўленасць у захаванні наяўных ільнокамбінатаў.

У траўні мне давялося ўзяць удзел у ток-шоу «Кожны з нас» на «Белсаце». Запіс праводзіўся яшчэ да пачатку збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі. Мой прагноз не вызначаўся арыгінальнасцю: подпісы ў першую чаргу збяруць тыя кандыдаты, каму дазволіць улада.

Ні я, ні мае калегі не маглі ўявіць сабе чэргаў, якія праз некалькі дзён пачалі выстройвацца на плошчах беларускіх гарадоў. Але чэргі — гэта толькі прыватная праява пераходу значнай часткі беларускага грамадства са стану палітычнай апатыі да стану палітычнага ўзбуджэння. Гэта падзея і стала галоўнай сярод родных бяроз і асін у 2020 годзе. Нікім з удзельнікаў ток-шоу яна прадказаная не была.

Калі што і можна прадказваць, дык гэта развіццё тэндэнцый, якія склаліся да моманту прадказання. Ад свайго прагнозу я і сёння не адмоўлюся. Цытую самога сябе па сайце «Белсата»: «Ужо даўно я не ўспрымаю выбары як выбары. Нічога ад іх не чакаю і ніколі не ўзважваю шанцы кандыдатаў. Але тое, што здарыцца пасля выбараў, — гэта цікава. Ідуць працэсы. У нулявыя гады сярэднія тэмпы росту ў нас былі 7,4% за год. Цяпер у нас тэмпы росту 1,1%. Сістэма вычарпала свой рэсурс. Таму працэсы ідуць, і змены, безумоўна, будуць».

### Сабака брэша, караван ідзе

Ацаніць, якая частка беларускага грамадства абудзілася ад палітычнага сну, на вока, без адпаведных сацыялагічных даследаванняў, немагчыма. Нічым не дапаможа нам і падлік удзельнікаў мітынгаў у падтрымку Святланы Ціханоўскай і яе баявых сябровак.

Арыфметыка тут простая. Ядро праціўнікаў «дзяржавы для народа», выбудаванай пад кіраўніцтвам АП, у беларускім грамадстве на момант апошняга апытання НІСЭПД (чэрвень 2016 года) складала 15%, а доля ідэйных праціўнікаў АП не перавышала 30%. Стандартная, між іншым, сацыялогія — і чацвёрты год росту рэальных грашовых даходаў насельніцтва прынцыпова не мог яе змяніць.

З улікам 7 мільёнаў беларусаў «электаральнага ўзросту» (18+), мы атрымліваем ад 1 да 2 мільёнаў чалавек. Гэтага хапае, каб дэлегаваць 50–60 тысяч апазіцыйна настроеных грамадзян на мітынгі ў падтрымку Святланы. Дапамогі з боку электаральнага «балота» для гэтага не трэба.

Чэргі з жадаючых паставіць свае подпісы за вылучэнне апазіцыйных кандыдатаў і шматлюдныя мітынгі ў іх падтрымку — важная характарыстыка стану так званай «меншасці» беларускага грамадства летам 2020 года. На жаль, сукупнасць гэтых падзей нічога не кажа пра стан «дзяржавы для народа».

А гэта слаўная дзяржава, нібы караван вярблюдаў з прыказкі, працягвае ісці па даўно наезджанай каляіне. Ніякія чэргі, ніякія шматлюдныя мітынгі не паўплывалі на хаду дзяржаўнага каравана. Тыя, каму належала праяўляць знешнюю актыўнасць (сілавікі, судзейскія працаўнікі ды іншыя), пачалі яе праяўляць. Аднак галоўныя сілы, нібы вадалазы, — без лішніх словаў, без гучных фразаў працягвалі рабіць сваю вялікую справу.

Не сустрэўшы прыкметнага супраціву з боку нібыта праціўнікаў нязменнага пераможцы электаральных спектакляў, яны з дапамогай звыклага адміністрацыйнага рэсурсу сабралі неабходную колькасць подпісаў за яго вылучэнне. Перадыхнулі і таксама спакойна сфарміравалі выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў.

На гэтым можна было б паставіць кропку і апусціць заслону. Аднак рытуал вырашана было выканаць да канца — і тым, хто захацеў, была дадзеная магчымасць прыйсці прагаласаваць. Іх электаральную актыўнасць пацвердзіла рэкордная яўка на датэрміновым галасаванні — 42%.

Гэта «наш (дзяржавы для народа) адказ Керзону». На чэргі на плошчах, грамадства адказала віртуальнымі чэргамі на выбарчых участках.

**Ні я, ні мае калегі не маглі ўявіць сабе чэргаў, якія пачалі выстройвацца на плошчах беларускіх гарадоў. Але чэргі — гэта толькі прыватная праява пераходу значнай часткі беларускага грамадства са стану палітычнай апатыі да стану палітычнага ўзбуджэння**

### А ці была стратэгія?

«Надзея — станоўча афарбаваная эмоцыя, звязаная з чаканнем задавальнення патрэбы, а таксама філасофскі, рэлігійны і культурны канцэпт, звязаны з асэнсаваннем стану чалавека, што зведае гэтую эмоцыю» (Вікіпедыя).

Спадзявацца, як і прыгожа жыць, не забароніш. Нават у далёкім 2006 годзе на піку беларускай мадэлі, калі тэмпы росту даходаў насельніцтва былі двухзначнымі, хапала аптымістаў, якія верылі ў магчымасць перамогі над аўтарытарным рэжымам на выбарах.

Пераход часткі грамадства ва ўзбуджаны стан прывёў да масавага выбуху «станоўча афарбаваных эмоцый». У цэнтры дыскусіі аказалася будучая перамога і яе абарона. Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з інтэрв'ю Уладзіміра Някляева: «У Кіеўскім скверы, у адрозненне ад кіеўскага Майдана, шанцаў на перамогу не было. Магчыма, убачыўшы і адчуўшы гэта, Святлана пастаяла ля сквера і сышла. Прэтэнзіі да Святланы Ціханоўскай у мяне найменшыя. Яна, як сама прызнаецца, у палітыцы не разбіраецца. І ўжо тым больш — у палітычных тэхналогіях. Але ёсць тое, што называецца штабам. Дык што гэта за штаб, які да завяршэння выбарчай кампаніі не павышае, а паніжае рэйтынг кандыдата? Памяншае шанец на перамогу?»

Не мне меркаваць пра ўзровень прафесіяналізму штаба ў пытаннях тактыкі, але пры распрацоўцы стратэгіі (зразумела, калі тактычным крокам папярэднічала такая распрацоўка) аналізаваць патрэбна было не толькі стан грамадства, але і стан улады.

Адкуль вынікала, што аўтарытарны персаналісцкі рэжым да лета 2020 года аказаўся калосам на гліняных нагах? Гэта значыць, калі карыстацца тэрміналогіяй Леніна, у краіне склалася сітуацыя, пры якой нізы больш не хацелі жыць як раней, а вярхі не маглі гаспадарыць і кіраваць, як раней. 60 тысяч на мітынгу ў падтрымку Святланы Ціханоўскай прэтэндаваць на ролю такога доказу не могуць. Сур'ёзным людзям не варта выдаваць жаданае за сапраўднае.

### Дзяржава вас не кіне. А нас?

9 жніўня ў 13.00 я з жонкай выканаў свой грамадзянскі абавязак у СШ №207 у Малінаўцы. Даўнютка (гадоў 15–20) нічога падобнага за сабой не заўважаў. Распісваючыся за бюлетэнь, звярнуў увагу, што мой подпіс аказаўся на першай старонцы. Сфатаграфаваўшы бюлетэнь з двух бакоў, беспярэшкодна пакінуў выбарчы ўчастак. Канцэрт самадзейных артыстаў мяне не зацікавіў. Гледачоў было няшмат.

Увечары зноў адправіўся да школы. Каля 100–150 чалавек чакалі абвяшчэння вынікаў галасавання. Па словах прысутных, старшыня камісіі асабіста паабяцаў незалежным назіральнікам, якіх у будынак школы не пусцілі, гэта зрабіць. Але каля 22.00 усе вокны пацямнелі — і нечакана высветлілася, што чальцы камісіі разам з афіцыйнымі назіральнікамі пакінулі школу праз запасны выхад.

Што ў існуючых умовах заставалася рабіць прысутным? Шматкроць пракрычаць: «Ганьба!» — і разысціся.

Пад канец прывяду цытату, запазычаную з тэксту Паслання–2020 героя маіх «Азбук паліталогіі»: «Я бачу, што цяпер робіцца ў сувязі з выбарчай кампаніяй. Вы, а таксама чальцы выбаркамаў, зведваеце каласальны прэсінг. Дайшло да таго, што на чальцоў выбаркамаў сыплюцца пагрозы і абразы. Але вы павінны ведаць: дзяржава вас не кіне. Яна вас абароніць. Мы знойдзем, мы знайшлі ўправу на гэтых экстрэмістаў. Таму нават не перажывайце і не хвалюйцеся ні за сваё жыццё, ні за сваю бяспеку, ні за бяспеку вашых дзяцей. Я вам гэта гарантую».

Асабіста я сярод тых, хто сабраўся ўвечары перад Мінскай СШ №207, экстрэмістаў не заўважыў. Тым не менш прыемна ўсведамляць, што ёсць у краіне людзі, якім магчымасць не хвалявацца і не перажываць за сваё жыццё і жыццё сваіх дзяцей гарантуе шасціразовы пераможца прэзідэнцкіх выбарчых кампаній.

Але хто абароніць тых беларускіх грамадзян, якія сабраліся чакаць выніку галасавання, ад чальцоў выбаркамаў і ад дзяржавы для народа, што іх сфарміравала?

# Усё толькі пачынаецца!

Сяргей ПУЛЬША

**Ніхто не думаў, што шостыя выбары Лукашэнкі перарастуць у тыя падзеі, сведкамі якіх мы з'яўляемся. Давайце коратка ўзгадаем, як усё пачыналася.**

## На гэта не разлічвалі

Пачыналася даволі сумна. Традыцыйная апазіцыя абвясціла праймерыз, на якіх усе жыхары краіны маглі наведаць сустрэчы прэтэндэнтаў на «адзінага ад апазіцыі» і абраць таго, хто больш спадабаецца. Але традыцыйная апазіцыя традыцыйна перасваралася адразу ж, як у гэтых праймерыз пачалі ўдзельнічаць дзяржаўныя чыноўнікі і ідэолагі, галасуючы «не за таго» прэтэндэнта.

На мой погляд, гэта быў моцны званочак, які традыцыйныя апазіцыянеры не ўцямілі. Калі дзяржчыноўнікі пайшлі на апазіцыйныя мерапрыемствы — гэта азначала, што і яны не вельмі задаволеныя тым, як ідуць справы ў краіне.

Але прыйшоў covid-19, які даў шанец годна скончыць апазіцыйную ініцыятыву. У той жа час небяспеку прафукала ўлада: заклікі лячыцца лазняй, гарэлкай і трактарам у тыя часы, калі ў Беларусі паміралі людзі, яскрава прадэманстравалі сутнасць гэтага рэжыму. Асабліва тады, калі Лукашэнка сцвярджаў, што «пік эпідэміі пройдзены», а Мінздароўя намагалася ўвесці каранцін хаця б у школах.

Урэшце бацькам дазволілі не адпраўляць дзяцей у школы дзеля іх бяспекі. І высветлілася, што ў «IT-краіне з самай лепшай адукацыяй» нельга наладзіць паўнавартаснае дыстанцыйнае навучанне — на дзяржаўным узроўні. Настаўнікі мыкаліся па вайбер-чатах і ютуб-каналах, спрабуючы данесці да дзяцей хоць нешта. А міністр адукацыі Ігар Карпенка быў заклапочаны не здароўем і бяспекай дзяцей і настаўнікаў, не стварэннем настаўнікам належных умоў працы, а тым, як ацэньваць веды вучняў.

Медыкі разрываліся на часткі, спрабуючы суцішыць эпідэмію без аніякай дапамогі ад дзяржавы. Нам сцвярджалася, што «усё добра», у той час, калі ў краіне проста не было абаронных павязак, а з аптэкаў пазнікалі не толькі аднаразовыя маскі, але і бінты з марляй.

І вось тут на першы план выйшла грамадзянская супольнасць. Таксісты бясплатна вазілі дактароў, рэстарацыі забяспечвалі іх бясплатнымі абедамі, «тая самая» крама symbal.by, як і шматлікія прыватныя ініцыятывы, перапрафілявала вытворчасць, не выпускаючы ніякай прадукцыі, апроч медычнай. Зразумела, што медыкам яны аддавалі яе проста так.

Незадаволенасць дзеяннямі ўлады нарастала, а Лукашэнка абвясціў выбары.

Невядома адкуль узніклі Віктар Бабарыка і Валерый Цапкала, якіх ад пачатку ніхто не ўспрымаў усур'ёз. Улады невядома навошта пасадзілі «на суткі» блогера Сяргея Ціханоўскага, які абвясціў пра намер вылучыць сваю кандыдатуру на вышэйшую пасаду ў краіне. У яго з «актыву» — толькі камера і каля 100 тысяч падпісчыкаў ютуб-канала, але яму брутальна не далі зарэгістраваць ініцыятыўную групу.

## Зноў памылка

Замест Ціханоўскага ў прэзідэнты пайшла яго жонка. Віктар Бабарыка сфарміраваў самую вялікую сярод альтэрнатыўных ініцыятыўную групу ў гісторыі Беларусі. Каб падпісацца за вылучэнне альтэрнатыўных прэтэндэнтаў у прэзідэнты, па краіне выстройваліся кіламетровыя чэргі, а кожная іх акцыя па зборы подпісаў ператваралася ў міні-мітынг. Найбуйнейшыя інтэрнэт-парталы краіны правялі апытанку на тэму «за каго б вы прагаласавалі проста зараз» — і ў краіне ўзнік мем «Саша-тры-працэнты», бо прыкладна столькі дзейны кіраўнік набраў галасоў сярод інтэрнэт-карыстальнікаў.

Уладу рэакцыя вуліцы спалохала. Інсцэніроўка не прымусіла сябе чакаць у Гродне, на сустрэчы з Ціханоўскай. Яе мужа зноў кінулі за краты, падчас вобшуку з трэцяй спробы «за канапай» знайшлі ў яго 900 тысяч долараў. Па краіне былі затрыманыя ўдзельнікі перадвыбарчых штабоў Ціханоўскай. Рэпрэсіі разгарнуліся раней, чым звычайна.

Падаецца, усё. Але... Віктар Бабарыка сабраў рэкордную колькасць подпісаў у сваю падтрымку сярод альтэрнатыўных кандыдатаў у гісторыі Беларусі. За ім быў Валерый Цапкала. А Святлана Ціханоўская, у якой пагражалі забраць дзяцей, насуперак усяму пачала аб'язджаць краіну і падала патрэбныя для рэгістрацыі кандыдаткай у прэзідэнты подпісы.

Улада не ведала, што рабіць, — «закрыла» Бабарыку, «зрэзала» подпісы Цапкалу. І не зважыла на Святлану Ціханоўскую — звычайную хатнюю гаспадыню, якая, на думку ўлады, відавочна не можа быць канкурэнтам Лукашэнкі.

## Прыгожы твар беларускай палітыкі

Ці можна назваць цудам тое, што штабы Бабарыкі і Цапкалы аб'ядналіся для працягу сваёй дзейнасці вакол Ціханоўскай? Наўрад ці. А вось чаго прадбачыць ніхто не мог — дык гэта таго, што кампанію ўзначаляць жанчыны. Тры цудоўныя, прыгожыя, разумныя жанчыны — Святлана Ціханоўская, Вераніка Цапкала, Марыя Калеснікава.

Гэта было феерычнае шэсце па краіне. Беларусы стаміліся не толькі ад адной асобы на пасадзе кіраўніка краіны — яны стаміліся ад звыклай нудотнай палітыкі з «мужчынскім» тварам. Ціханоўская, што раней сапраўды выглядала як хатняя гаспадыня, з кожным мітынгам, з кожнай размовай з людзьмі набірала палітычны досвед. Апафеозам быў, канешне, 60-тысячны мітынг у Мінску. І ўлады зразумелі, як яны памыліліся з Ціханоўскай. Але было ўжо позна.




Фота www.tut.by

Нават забарона яе агітацыйных мітынгаў у апошні тыдзень перад галасаваннем ужо не магла нічога змяніць.

## Старая ўлада — новае грамадства

Улады дзейнічалі (і працягваюць дзейнічаць) звыкла і шаблонна. Але яны недаацанілі беларускі народ, які здолеў кансалідавацца. На нашых вачах нараджалася тое, што называецца «грамадзянскай супольнасцю». Гэта была сапраўдны беларуская салідарнасць. Звычайныя людзі дапамагалі адзін аднаму ў бядзе, і нічога не патрабавалі ўзамен.

Улада прымала беспрэцэдэнтныя захады: нядопуск на ўчасткі назіральнікаў нібыта з-за «эпідэміі covid-19», фактычная адмена таемнага галасавання:, запалохванні, абмежаванні, нічым не прыкрытыя фальсіфікацыі, яшчэ шмат чаго.

Звыкла ўлады намалявалі 40% датэрміновай яўкі на выбарах у спадзевах, што гэта «праглынуць». Але іх зноў здзівіў народ, які прыйшоў на ўчасткі для галасавання 9 жніўня. У выніку на некаторых з іх утварыліся такія чэргі, што камісіі вымушаны былі «спыніць прыём». Каб выбарчыя камісіі адмаўлялі выбаршчыку ў праве прагаласаваць — такога яшчэ не было!

На некаторых участках скончыліся бюлетэні — пэўна, занадта шмат падкінулі ў часе фальсіфікацый. А ЦВК пры гэтым сцвярджала, што яўка ў Мінску склала толькі 66%. «Праўдны экзіт-пол» выдаў звыклую лічбу — 79% за Лукашэнку, пры гэтым саміх «сацыёлагаў» ніхто нідзе не бачыў. Затое было багата людзей з белымі стужкамі.

## «Адзін. Зусім адзін»

Улада дзейнічала звыкла і нахабна нават не таму, што інакш яна не ўмее (хаця і таму таксама). Яны, там, ва ўладзе, канчаткова адарваліся ад народа і не заўважылі, што народ ужо іншы.

Спадарыня Ярмошына звыкла расказвала, што «навучаныя правакатары» перакрылі доступ на выбарчыя ўчасткі і патрабуюць «лішнія» бюлетэні, хаця вожыку зразумела — не можа быць у Мінску дзясяткаў тысяч «навучаных правакатараў». Улады перакрылі доступ да сайту «Голас», дзе быў арганізаваны альтэрнатыўны падлік галасоў, хаця ўсім ясна было сказана — адпраўляць бюлетэнь можна ў вайбер і тэлеграм, прычым, неабавязкова ў дзень галасавання.

Ярмошына таксама казала, што выбары «усё роўна прызнаюць». Але не сказала — хто. Прызнае беларускі народ? На гэта я б увогуле не спадзяваўся.

Карацей, раніца 10 жніўня для Лукашэнкі пачалася старым анекдотам: «У мяне для вас дзве навіны — добрая і дрэнная. Добрая — вы зноў атрымалі "элегантную перамогу". Дрэнная — за вас ніхто не прагаласаваў». Прычым, апошняе відавочна ўсім.

## Усё толькі пачынаецца

Было б элегантна, калі б Лукашэнка выканаў сваё абяцанне: сысці тады, калі народ папросіць. Народ ужо яўна папрасіў: можна выбачацца і сыходзіць. Так бы ён захаваў рэшткі павагі. Але цяпер павагі не будзе. Цяпер, падаецца, усе ведаюць, як здабытая «элегантная перамога».

Можна кінуць на народ АМАП і войскі з гумовымі кулямі і светлашумавымі гранатамі. Але, па-першае, гэта выклікае толькі эскалацыю гвалту. У першы дзень пратэстаў людзі выйшлі мірна — супраць іх ужылі гвалт і спецсродкі. У адказ на гэта ў другі дзень пратэсту ў Мінску з'явіліся барыкады — пакуль яшчэ толькі маленькія. Людзі ўжо адбіваліся ад міліцыянтаў — і адзін чалавек нават загінуў. Чым далей эскалацыя — тым больш гвалтоўнымі будуць дзеянні народу.

Канстытуцыя прадугледжвае свабоду мірных сходаў для грамадзян, і ўлада павінна забяспечыць гэтае канстытуцыйнае права. Калі супраць людзей, якія мірна сабраліся ў горадзе, ужываюць зброю — гэта адказнасць улады. А народ мае права не выконваць незаконныя патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі.

Ужо спыняюцца некаторыя прадпрыемствы, ужо пайшлі па працоўных размовы пра ўсеагульны страйк. Канешне, наўрад ці ён адбудзецца проста так, але напрыканцы восені — напачатку вясны ва ўлады могуць скончыцца грошы на падтрымку «сацыяльнай дзяржавы». Калі дзяржпрадпрыемствы больш не змогуць узяць крэдыты на заробкі. Калі прыйдзе час раздаваць знешні доўг, а ва ўмовах covid-19 беларуская прадукцыя нідзе не прадавалася. Калі электраэнергію з запушчанай нядаўна БелАЭС не будзе куды падзець, бо на экспарт яе не возьмуць, а краіне столькі не патрэбна. Калі зноў трэба будзе гандлявацца за газ і нафту з Расіяй, а тая ўзгадае і «Белгазпрамбанк», і «расійскіх баевікоў».

Карацей, калі «ў атамана скончыцца залаты запас», — а скончыцца ён хутчэй, чым таго хацелася б, — тады ад яго пабягуць нават сілавікі. Тады і адгукнуцца яму гэтыя выбары: і «абранне», і «прызнанне», і «легітымнасць».

Дый не трэба забывацца пра галоўнае — народ. Народ, які зразумеў, што ён можа дзейнічаць, не зважаючы на ўладу. І ён будзе дзейнічаць. Мільён грамадзянаў, што зарэгістраваліся на платформе «Голас», не падзенуцца нікуды.

Змены адбудуцца хутчэй, чым нам уяўляецца. І, безумоўна, яны будуць сюрпрызам — як для ўлады, так і для нас. Эканамічная абстаноўка толькі ўзмоцніць тое, што зробіць народ.

## Гістарычная інтэрлюдыя

Старажытнарымскі імператар Нерон вельмі хацеў стаць алімпіёнікам. Ён увёў у Алімпійскія гульні ўсялякія тэатральныя і культурніцкія спаборніцтвы, дзе яму, зразумела, роўных не было. Але гэтага было замала: ён хацеў стаць сапраўдным пераможцам гульняў у гонках на калясніцах. Дзеля гэтага Нерону запрэглі ў калясніцу аж дзесяць коней, у той час, як у яго супернікаў было па два кані.

Але, каб засцерагчы сябе ад выпадковасцяў, за некалькі хвілін да пачатку забегу Нерон забараніў выстаўляць супраць сябе хаця б аднаго суперніка. У адзіноце ён пачаў забег, але так яго і не скончыў, бо быў ушчэнт п'яны і проста вываліўся з каляскі. Рабы падхапілі імператара і данеслі яго да фінішу. Так Нерон стаў пераможцам Алімпіяды.

Гэта было ў 67 годзе нашай эры. А ўжо ў 68-м загадам гэткага імператара перасталі падпарадкоўвацца ўсе, а Сенат абвясціў яго здраднікам. Калі Нерон запрасіў сваіх звычайных сабутэльнікаў на не менш звычайную оргію, да яго не з'явіўся ніхто. Нерон скончыў жыццё самагубствам у атачэнні рабоў, якіх ён сам папрасіў выкапаць сабе магілу.

# «Калі галава "пухне" ад раку, на кавід

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Рак — гэта не тая хвароба, якая дазваляе чакаць. Ад таго, наколькі хутка будзе пастаўлены дыягназ і распачатае лячэнне, залежыць шанец на выздараўленне і на жыццё. Тым часам пандэмія каронавіруса часткова пазбавіла хворых на рак своечасовай дыягностыкі і лячэння.**




### Два месяцы без неабходнай дапамогі

У Мінскім гарадскім клінічным анкалагічным дыспансеры для хворых на COVID-19 яшчэ ў сакавіку былі перапрафіляваныя два аддзяленні: 4-ты хірургічны корпус і радыелагічны корпус. Адметна, што ў апошнім праводзяць радыеёдатэрапію і дыягностыку людзям з ракам шчытападобнай залозы — ва ўсёй краіне гэта робяць толькі тут ды ў Гомелі. На месяц пад каронавірус быў аддадзены і хірургічны корпус Віцебскага абласнога анкадыспансера.

Напрыканцы траўня маці аднаго з суразмоўцаў «Новага Часу», які пажадаў застацца ананімным, не змагла прайсці неабходнае абследаванне пры анкалагічным захворванні. Жанчыне трэба было зрабіць камп'ютарную тамаграфію, але ў мінскім анкацэнтры гэта было ўжо немагчыма: усё аддадзена пад «карону». Корпус, дзе робіцца адмысловае даследаванне радыеактыўныя іёны плюс камп'ютарная тамаграфія (ПЭТ КТ), таксама ў Мінску не дзейнічаў. А без гэтага даследавання нельга ўбачыць дакладную карціну пухліны. Адпаведна, прызначыць неабходнае лячэнне.

На думку суразмоўцы, калі б своечасова былі ўведзеныя агульнадзяржаўныя меры засцярогі, то такой карціны не было б, і мы б значна хутчэй выйшлі з пандэміі.

Яшчэ адзін суразмоўца «Новага Часу», Г. К., сам мае анкалагічнае захворванне і мусіў два месяцы ездзіць на апраменьванне ў анкацэнтр і потым вяртацца дамоў, незалежна ад самаадчування. У звычайных умовах такія пацыенты пасля працэдуры ляжаць у дыспансеры. Праблема ў тым, што ў анкахворых вельмі нізкі імунітэт, а рызыка падхапіць інфекцыю ў грамадскім транспарце надта вялікая. Што, верагодна, і адбылося: калі Г. К. нарэшце змог легчы ў стацыянар, аказалася, што ён перанёс каронавірус бессімптомна. Калі б у дыспансеры гэта не выявілі, ён бы і не ведаў, што хварэў.

Неабходнае своечасовае лячэнне і дыягностыку многія анкалагічная хворыя ў Мінску не маглі атрымаць на працягу двух месяцаў. У сітуацыі, калі ад ранняй дыягностыкі літаральна залежыць жыццё, два месяцы прамаруджвання — немагчымая раскоша і недаравальная страта часу. З улікам таго, якія чэргі на абследаванні і аперацыі былі ў анкалагічных аддзяленнях у «дакавідную» эпоху, такі перапынак можа мець сур'ёзныя наступствы. Звесткі Белстата прымушаюць напружыцца: у I квартале 2020 года праз новаўтварэнні памерлі 4877 чалавек. Гэта на 1,8% больш, чым у студзені — сакавіку 2019 года. І, заўважым, гэтыя даныя былі сабраныя яшчэ да закрыцця анкалагічных аддзяленняў, але вірус у гэты час ужо прыйшоў.

### Сітуацыя не крытычная

Па словах кіраўніцы Цэнтра падтрымкі анкапацыентаў «У імя жыцця» Ірыны Жыхар, сітуацыя з закрыццём часткі аддзяленняў у анкадыспансерах для анкапацыентаў усё ж не стала крытычнай.

— Не было такога, каб усе дыспансеры былі закрытыя. Былі перанесеныя планавыя аперацыі. Каму неабходныя былі тэрміновыя аперацыі, тых накіроўвалі ў Бараўляны. Былі пераносы аперацый там, дзе гэта было без наступстваў, калі рак развіваецца павольна, і можна было пачакаць. Камусьці, дзе была магчымасць, пачыналі лекаванне з хіміятэрапіі, а не з аперацыі. Я дакладна ведаю, што нашы анколагі раіліся з еўрапейскімі. Канешне, былі і тыя, хто пацярпеў. Але скаргаў да нас было вельмі мала.

Суразмоўца кажа, што ў Віцебскім абласным анкадыспансеры, які яшчэ з 18 траўня вярнуўся да сваёй звычайнай працы, усім пацыентам, якія паступаюць, робяць экспрэс-тэсты на каронавірус і КТ. І калі ёсць хаця б адзін чалавек у палаце са станоўчым вынікам тэсту, усю палату выпісваюць дамоў на каранцін. Больш за тое, многія людзі самі баяцца класціся ў шпіталь, каб не заразіцца.

— Правільна ці не было аддаваць частку аддзяленняў у анкадыспансерах пад каронавірус, я не ведаю. Але ж і сярод анкапацыентаў ёсць хворыя на кавід. У любым разе, гэтае рашэнне прымалі не галоўныя лекары медустаноў, а Міністэрства аховы здароўя. Як атрымалася — так атрымалася. Але гэтая сітуацыя навучыла нашых дактароў-анколагаў працаваць з такімі хворымі. У нас не ўсё так дрэнна, як мы думаем, асабліва ў параўнанні з некаторымі іншымі краінамі, — зазначае Ірына Жыхар.

У астатнім пандэмія не вельмі моцна змяніла звыклы лад жыцця анкапацыентаў, паколькі яны, ведаючы асаблівасці свайго арганізму, прывыклі клапаціцца пра сваё здароўе і выконваць усе рэкамендацыі па бяспецы.

— Мы вельмі ўважлівыя. У нас ёсць «брудная» і «чыстая» зоны ў хаце, мы не сумняваемся, што трэба насіць маскі і пальчаткі. Калі мыем падлогу, мы абавязкова дадаем «Белізну». У мяне дзень пачынаецца і заканчваецца дэзінфекцыяй: я праціраю антысептыкам усе ручкі і паверхні, да якіх дакранаюся, абавязкова праветрываю памяшканне, прасую ўсю бялізну.

У той жа час, дадае Ірына Жыхар, праз тое, што дзяржаўныя СМІ не ствараюць ажыятажу вакол пандэміі, па тэлебачанні не ўбачыш чыноўнікаў у масках, у беларускіх анкапацыентаў досыць нізкі ўзровень трывожнасці адносна каронавіруса.

— Калі галава «пухне» ад раку, на кавід ужо не хапае сілаў, — кажа суразмоўца.

### «Улады павінны былі падаваць прыклад»

У Ірыны Жыхар няма адназначнага адказу на пытанне, ці слушна паступілі беларускія ўлады, не абвясціўшы каранцін.

— Я не магу сказаць, добра гэта ці не. Адмоўнае — тое, што палітыкі пра гэта не гавораць, мы не бачым нікога з уладаў у масках. Улады павінны былі казаць, што трэба берагчы сябе, і падаваць прыклад. Адзяваць маскі, казаць пра сацыяльную дыстанцыю трэба было раней, яшчэ ў лютым — сакавіку. Але хранічна хворых не трэба ні ў чым пераконваць.

Мне цяжка сказаць, наколькі патрэбны быў каранцін. Але не варта было праводзіць шмат грамадскіх мерапрыемстваў.

# Рак: што пра яго варта ведаць?

**Да гэтага часу не існуе лекаў ад раку. Дый хваробы такой не існуе — пад гэтым словам разумеюць больш за 200 захворванняў, пры якіх клеткі пачынаюць ненармальна расці, утвараць пухліны і паражаць іншыя органы і тканкі. Тлумачым, што можа зрабіць кожны з нас, каб мінімізаваць для сябе рызыкі захворвання.**

### Ці можна папярэдзіць з'яўленне раку?

Пакуль не існуе спосабаў пазбегнуць захворвання на рак. Анкалагічныя захворванні застаюцца адной з галоўных прычын смерці па ўсім свеце. Але ёсць і добрыя навіны: паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, прынамсі траціну ўсіх выпадкаў захворвання можна прадухіліць. А ўзровень смяротнасці ад рака падае ўжо чвэрць стагоддзя. Самая эфектыўная па кошце доўгатэрміновая стратэгія для барацьбы з ракам — прафілактыка. Ужыванне тытуню (не толькі паленне, але і жаванне ды нюханне), алкаголь, адсутнасць фізічных нагрузак, лішняя вага, інфекцыі, забруджанае наваколльнае асяроддзе, выпраменьванне і канцэрагены, звязаныя з прафесійнай дзейнасцю, — дадатковыя фактары рызыкі. Каб мінімізаваць развіццё хваробы, трэба па магчымасці іх выключыць.

### Якія сімптомы могуць сведчыць пра анкалагічнае захворванне?

Незвычайныя вузельчыкі, узduцці і прыпухласці. Ракавыя пухліны часта бываюць бязбольнымі, асабліва на ранніх этапах захворвання. Асаблівую ўвагу трэба звяртаць на шыю, яечкі ў мужчын і малочныя залозы ў жанчын, а таксама падпахавыя западзіны.

Таксама сімптомам можа быць зацяжны кашаль, дыхавіца ці цяжкасці пры глытанні. Не варта ігнараваць і змены ў звыклай працы кішэчніка, калі раптам пачаліся запоры ці, наадварот, частыя прыступы дыярэі — асабліва са слядамі крыві.

Трывожны сімптом — нечаканыя крывацёкі, у тым ліку невялікія выдзяленні крыві з вагіны, прамой кішкі, кроў у мачы або макроце падчас кашлю. Беспрычынная страта вагі, хранічная стомленасць і катастрафічны недахоп энергіі нягледзячы на нармальны здаровы сон. Невытлумачальныя болі любога характару і перыядычнасці; з'яўленне новых радзімак або трансфармацыя ўжо існуючых; праблемы пры мочавыпусканні, у тым ліку больш частыя або больш вострыя пазывы, а таксама цяжкасці ці болі ў працэсе.

Падставай для турботы можа быць нечаканая змена памеру або формы грудных залоз, а таксама змены адчуванняў пры дотыку, у тым ліку да скуры грудзей, або болю; страта апетыту; незагойная язвачка або іншая рана, асабліва ў роце; хранічная пякотка або іншыя рэгулярныя расстройствы стрававання; моцнае потааддзяленне ў начны час.

### Што рабіць, калі ў вас ёсць падазрэнні на анкалагічнае захворванне?

Першае — не панікаваць. Ёсць меры другаснай прафілактыкі, накіраваныя на ранняе выяўленне ракавых і папярэдніх ім захворванняў, вылучэнне групаў рызыкі і фарміраванне анкалагічнай насцярожанасці. Самастойна вы можаце атрымаць больш ведаў аб хваробе (толькі не спяшайцеся ставіць сабе дыягназ!), на іх аснове можна праводзіць рэгулярную самадыягностыку.

Не ігнаруйце прафілактычныя медагляды і рэкамендаваныя лекарамі абследаванні. Найбольш важна гэта для тых, хто знаходзіцца ў групе рызыкі. У выпадку з'яўлення невыразных, падазроных сімптомаў тэрмінова звяртайцеся да ўрача.

**Паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, прынамсі траціну ўсіх выпадкаў захворвання можна прадухіліць. А ўзровень смяротнасці ад рака падае ўжо чвэрць стагоддзя. Самая эфектыўная стратэгія — прафілактыка**

### Якія даследаванні дапамогуць выявіць найбольш распаўсюджаныя віды анкалагічных захворванняў, калі яшчэ можа не быць сімптомаў?

- Штогадовая флюараграфія, УГД малочных залоз — да 40 гадоў і мамаграфія жанчынам пасля 40 — раз на год-два;
- наведванне гінеколага і цыталагічнае даследаванне мазка з шыйкі маткі — жанчынам раз на год;
- наведванне ўролага для даследавання прастаты і аналізу на прастатспецыфічны антыген — мужчынам пасля 40 гадоў раз на год;
- цытагенетычнае даследаванне пры высокай верагоднасці паталогіі, абумоўленай генетычнымі механізмамі — рак

# ужо не хапае сілаў»

У грамадскай прасторы, на думку Ірыны Жыхар, не хапае парадаў ад спецыялістаў, як сябе паводзіць і што рабіць. У беларускай інтэрнэт-прасторы няма медыкаў, якія б распавядалі пра гэта.

— Нават калі ты атрымаеш дозу каронавіруснай інфекцыі, не факт, што яна спрацуе. Ёсць такое паняцце, як экспазіцыя (час, за які антысептычны або дэзінфекцыйны сродак знішчае хваробатворных мікраарганізмы. — НЧ.). Але хто нам кажа, чым паласкаць нос і рот? Па тэлебачанні трэба было распавядаць, як можна мінімізаваць дзеянне віруса. Калі я ведаю, як сябе паводзіць, гэта садзейнічае зніжэнню захворвання.

Цэнтр падтрымкі анкапацыентаў «У імя жыцця» шчыльна супрацоўнічае з медыкамі, і неўзабаве на сайце арганізацыі пачнуць з'яўляцца матэрыялы з іх каментарамі і парадамі.

— У размовах з медыкамі даводзіцца чуць, што яны аказаліся ў пекле. У нас ёсць гераічныя і самаахвярныя дактары, і вельмі хочацца сказаць ім словы падзякі за тое, што ўзялі на сябе гэты цяжар і штодзённа працуюць з хворымі на каронавірус.

### Сістэма дала збой. Але не паўсюль

Галоўны ўрач Маскоўскай гарадской анкалагічнай бальніцы № 62 Дзмітрый Канер у інтэрв'ю расійскаму выданню «Российская Газета» распавёў, што ўсіх анкалагічных хворых умоўна можна падзяліць на тры групы. Першая — гэта першасныя пацыенты, у якіх пухліна верыфікаваная, пацверджаная, злаякасная, і чалавека трэба пачынаць лячыць. Паводле даследаванняў анколагаў з Вашынгтона, адмена лячэння для такіх пацыентаў значна больш небяспечная, чым каронавірус.

«Таму, якой бы складанай ні была эпідэмічная сітуацыя, анкацэнтры працягваюць працаваць і лячыць — з захаваннем усіх нормаў бяспекі. Сама тактыка лячэння не змяняецца — хірургія, хіміятэрапія, прамянёвая тэрапія. Амерыканцы ўжо абагульнілі, што ні адзін з відаў лячэння — ніякай гэта будзе хірургія, хіміятэрапія ці апраменьванне — не з'яўляецца больш пераважным спосабам ва ўмовах пандэміі каранавіруса. Важна захаванне агульных эпідэміялагічных патрабаванняў», — распавёў расійскі анколаг.

З хворымі, якіх каронавірус заспеў на стадыі лячэння, кожны выпадак разглядаюць індывідуальна. Напрыклад, да пацыентаў з пухлінамі прастаты або з захворваннямі малочнай залозы, якім робяць падскурныя гарманальныя ін'екцыі, лекар з медсястрой прыязджаюць на дом.

Між тым, дырэктар Еўрапейскага рэгіянальнага бюро СААЗ Ханс Клюге 18 чэрвеня адзначыў, што даныя аб тым, як пандэмія ўплывае на іншыя аспекты здароўя, выклікаюць занепакоенасць.

«У Еўрапейскім рэгіёне 68% краін паведамілі пра тое, што прадастаўленне паслуг па вядзенні неінфекцыйных захворванняў было перапыненае з-за пандэміі. Было часткова або цалкам перапыненае прадастаўленне 66% паслуг па вядзенні пацыентаў з артэрыяльнай гіпертэнзіяй і 58% паслуг па вядзенні пацыентаў, якія пакутуюць на дыябет або яго ўскладненні. У Нідэрландах на 25% знізіліся паказчыкі дыягностыкі рака; у некалькіх краінах была прыпыненая праца праграм скрынінгу на рак. У Іспаніі колькасць выпадкаў лячэння інфаркту міякарда на базе аддзяленняў кардыялогіі знізілася на 40% у параўнанні з данымі за перыяд да пачатку эпідэміі. Мы таксама сталі сведкамі 60-працэнтнага скарачэння паказчыкаў выяўлення сухотаў, што прыводзіць да позняга пачатку лячэння і росту смяротнасці ад гэтай хваробы. У некаторых краінах было перапынена аказанне паслуг па імунізацыі насельніцтва. Шэраг іншых краін сутыкнуўся са зніжэннем паказчыкаў ахопу: так, у Вялікабрытаніі ахоп дзіцячага насельніцтва вакцынай супраць адру, паратыту і краснухі да сярэдзіны красавіка ўпаў на 20%.

Гэтая затрымка ў прадастаўленні дапамогі насельніцтву павінна быць ліквідаваная», — заявіў Ханс Клюге.

Па словах дырэктара Еўрапейскага рэгіянальнага бюро СААЗ, крызіс, выкліканы пандэміяй, яшчэ не пераадолены. Сістэмы аховы здароўя ва ўсім свеце далі збой, наступствы якога яшчэ вельмі не хутка можна будзе ацаніць, і яшчэ больш часу спатрэбіцца, каб іх пераадолець.

Барацьба з каронавірусам працягваецца, расце і колькасць ахвяр. У многіх краінах вірус вяртаецца. І на гэтым тле надзвычай дзіўна назіраць, як з афіцыйных СМІ рапартуюць пра тое, што эпідэмія каронавіруса ў Беларусі пераможаная.



малочнай залозы, прастаты, яечнікаў;

- камп'ютарная тамаграфія, МРТ, кантраставанне; эндаскапія, гастраскапія — пры верагоднасці развіцця пухліны страўніка, бронхаскапія — калі ёсць рызыка рака лёгкіх і бронхаў;
- выяўленне анкамаркераў у аналізах крыві — у большасці відаў раку ёсць хімічныя рэчывы, колькасць якіх павялічваецца пры росце пухліны.

### Як прайсці скрынінг?

Скрынінг — рэгулярнае правядзенне абследаванняў, якое дазваляе выявіць бессімптомны рак у групе рызыкі. У межах Дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь» на 2016–2020 гады ва ўсіх рэгіёнах Беларусі можна прайсці скрынінг і раннюю дыягностыку раку.

Для таго, каб прайсці скрынінг рака шыйкі маткі, тоўстай кішкі, прастаты, малочнай залозы, трэба звяртацца да ўчастковага тэрапеўта па месцы жыхарства.

### Дыягназ пацвердзіўся. Як з гэтым жыць?

Два гады таму расійскі анколаг Андрэй Паўленка даведаўся, што ў яго рак страўніка ў трэцяй стадыі. Шанец на выздараўленне ў яго выпадку складаў каля 5%. Для таго, каб дапамагчы іншым людзям, якія сутыкнуліся з анкалогіяй, ён завёў тэлеграм-канал «Жыццё чалавека», у якім кожны тыдзень распавядаў пра сваё лячэнне і з якімі праблемамі яму даводзілася сутыкацца.

Напачатку гэтага года Андрэя Паўленкі не стала, але яго парады застаюцца актуальнымі: «Калі вы зацыкліліся толькі на лячэнні, будзе дрэнна, будзеце пастаянна пра гэта думаць. Вам трэба падзяліць вашу ментальную сферу на некалькі частак: першая — лячэнне раку, другая — рэалізацыя тых праектаў, якія вы сапраўды можаце рэалізаваць у бліжэйшы час, трэцяя — сям'я і ўсё, што звязана з яе дабрабытам, гэта значыць, зрабіць тыя рэчы, якія вы яшчэ не зрабілі для сям'і. Зрабіце так, як я, — і паверце, займаючыся гэтымі трыма праектамі адразу, у вас не будзе часу думаць пра рак».

Памятайце, што ў многіх выпадках анкалагічны дыягназ не з'яўляецца прысудам. Дыягназ прадугледжвае, што давядзецца доўга і інтэнсіўна лячыцца, траціць сілы, грошы і час. Таму варта настройвацца на барацьбу, хоць лёгка не будзе. Але ад настрою часам залежыць поспех лячэння, якое выяўляецца не толькі ў дзеяннях медыкаў і лекаў, а ў супрацы пацыента з урачамі.

У гэты час вельмі важна знайсці падтрымку блізкіх і прафесійных псіхолагаў.

# Мінаховыздароўя: Ні адна аперацыя, звязаная з непасрэднай пагрозай жыццю пацыента, не была адкладзеная

**«Новы Час» спытаў у Міністэрства аховы здароўя, як пандэмія паўплывала на анкапацыентаў.**

Нам адказалі, што ў краіне ў сувязі з неспрыяльнай эпідэмічнай абстаноўкай па каронавіруснай інфекцыі (сакавік-чэрвень 2020 г.) у арганізацыях аховы здароўя, якія аказваюць медыцынскую дапамогу пацыентам з анкалагічнымі захворваннямі, было адкладзена 211 планавых аперацый на тэрміны ад двух тыдняў да двух месяцаў. У ведамстве падкрэслілі, што гаворка ідзе пра аперацыі, перанос якіх з-за біялагічных асаблівасцяў развіцця пухліннага працэсу ніяк не адбіўся на зыходзе захворвання для кожнага канкрэтнага пацыента. Ні адна аперацыя, звязаная з непасрэднай пагрозай жыццю пацыента, не была адкладзеная.

У выпадку неабходнасці і/або немагчымасці выканання хірургічнага ўмяшання ў канкрэтнай установе аховы здароўя, пацыенты пераводзіліся ў іншую спецыялізаваную ўстанову аховы здароўя альбо ў РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М. Аляксандрава.

Агулам у перыяд эпідэміі сем устаноў былі цалкам альбо часткова перапрафіляваныя на тэрмін ад аднаго да трох месяцаў.

У міністэрстве паведамілі, што дыягнастычныя абследаванні пацыентам на падставе падазрэння на злаякасныя пухліны, а таксама пацыентам з устаноўленым дыягназам злаякаснага анкалагічнага захворвання праводзіліся анкалагічнымі дыспансерамі і РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М. Аляксандрава ў поўным аб'ёме.

З мэтай скарачэння ліста чакання на правядзенне даследаванняў для такіх пацыентаў у перыяд пандэміі былі адменены або скарочаныя аб'ёмы платных паслуг, а таксама спынены прыём замежных грамадзян, таксама пераносілі на больш позні час тэрмін абследаванняў пацыентаў з дабраякаснымі наватворамі.

Патрабаванні клінічнага пратаколу лячэння пацыентаў, хворых на анкалагічныя захворванні, выконваліся ва ўсіх анкалагічных дыспансерах.

Для забеспячэння мер па папярэджанні распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі ў анкалагічных дыспансерах краіны і РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М.Аляксандрава былі ўведзены мерапрыемствы, якія ўключалі забарону наведвання пацыентаў у арганізацыях аховы здароўя; шпіталізацыю пацыентаў з анкалагічнай паталогіяй у стацыянар толькі пасля выканання кампутарнай тамаграфіі органаў грудной клеткі або пацвярджэння адсутнасці інфекцыі вынікам лабараторнага даследавання, прадастаўленага з арганізацыі аховы здароўя па месцы жыхарства; правядзенне бескантактнай тэрмаметрыі пацыентаў у амбулаторна-паліклінічных аддзяленнях анкалагічных дыспансераў, у прыёмных аддзяленнях стацыянараў; забеспячэнне медыцынскіх работнікаў у поўным аб'ёме сродкамі індывідуальнай абароны; узмацненне захавання дэзінфекцыйнага рэжыму ў аддзяленнях.

У выпадках выяўлення пацыентаў з прыкметамі COVID-19 у стацыянарных аддзяленнях, яны неадкладна ізаляваліся ў асобныя палаты з наступным пераводам у спецыялізаванае аддзяленне (інфекцыйны шпіталь), перапрафіляванае для аказання медыцынскай дапамогі пацыентам з каронавіруснай інфекцыяй.

Таксама Міністэрства аховы здароўя прыводзіць статыстыку: па папярэдніх даных Канцар-рэгістра, колькасць зноў выяўленых пацыентаў са злаякаснымі захворваннямі за перыяд сакавік-травень 2020 года склала 9 756 чалавек, за аналагічны перыяд 2019 года было зарэгістравана 11 975 чалавек. Ці звязана гэта скарачэнне з перапрафіляваннем анкадыспансераў, у адказе ведамства не ўдакладняецца.

А вось статыстыка па колькасці выпадкаў COVID-19 сярод пацыентаў са злаякаснымі захворваннямі будзе сфарміраваная толькі па выніках 2020 года.

У міністэрстве адзначаюць, што ў пацыентаў, якія пакутуюць на анкалагічныя захворванні, імунная сістэма, як правіла, аслабленая, таму ім асабліва важна няўхільна выконваць меры прафілактыкі паветрана-кропельных інфекцый. У перыяд праходжання або пасля пройдзенага раней курсу супрацьпухліннага лячэння існуе павышаная рызыка заражэння паветрана-кропельнымі інфекцыямі, у тым ліку каронавірусам.

У рэкамендацыях Еўрапейскага таварыства медыцынскай анкалогіі (ESMO) сярод пацыентаў, хворых на анкалагічныя захворванні, вылучаюцца групы высокай рызыкі заражэння і развіцця цяжкіх ускладненняў COVID-19. Гэта пацыенты, якія атрымліваюць хіміятэрапію або атрымалі яе на працягу апошніх трох месяцаў; пацыенты, якія атрымліваюць прамянёвую тэрапію; пацыенты, якія перанеслі трансплантацыю касцявога мозгу ў апошнія 6 месяцаў, а таксама тыя, хто атрымлівае імунасупрэсіўную тэрапію; пацыенты з анкагематалагічнымі захворваннямі.

На перспектыву Міністэрства аховы здароўя распрацоўвае комплекс мерапрыемстваў па далейшым недапушчэнні распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі і імунізацыі насельніцтва супраць грыпу, а таксама мерапрыемстваў, якія ўключаюць медыцынскае і лекавае забеспячэнне насельніцтва ў выпадку пагаршэння эпідэмічнай сітуацыі.

## Старшыня ПАРЕ вітае мужнасць і рашучасць беларускага народа і заклікае ўлады паважаць правы чалавека і нормы вяршэнства права

**Па выніках прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі старшыня Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы (ПАРЕ) Рык Дамс зрабіў наступную заяву:**

«Я ўважліва сачыў за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі, а таксама за падзеямі ночы пасля закрыцця ўчасткаў для галасавання — я глыбока шкадую, што гэтыя выбары былі далёкія ад таго, каб быць свабоднымі і справядлівымі.

Кандыдаты не маглі свабодна балатавацца і весці перадвыбарчую кампанію, існавалі сур'ёзныя абмежаванні на свабоду сходаў і свабоду выказвання меркаванняў — уключаючы масавыя затрыманні мірных пратэстоўцаў, актывістаў і журналістаў — і сумленнасць датэрміновага галасавання была пастаўлена пад сумнеў.

Падзеі ночы пасля галасавання — уключна з прымяненнем сілы міліцыяй і вайскоўцамі, а таксама затрыманне пратэстоўцаў — пагаршаюць мае асцярогі. Я заклікаю ўлады праявіць максімальную стрыманасць і забяспечыць бесперашкоднае ажыццяўленне асноўных правоў і свабодаў чалавека ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі і абавязацельствамі Беларусі. Свабода выказвання меркаванняў і мірных сходаў з'яўляюцца найважнейшай апорай дэмакратычных грамадстваў і неабходнай умовай плюралістычнага і дэмакратычнага палітычнага працэсу.

Я асабліва вітаю мужнасць і рашучасць беларускіх жанчын, якія актыўна ўдзельнічалі ў палітычным працэсе ў якасці лідараў, агітатараў і зацікаўленых выбаршчыкаў, нягледзячы на сексісцкія выказванні, якія гучалі на працягу ўсёй кампаніі. Такім грэблівым фармулёўкам, як неаднаразова падкрэсліваў ПАРЕ, няма месца ў сучаснай палітыцы.

Асамблея ўжо даўно заклікае ўлады Беларусі перайсці да "сапраўды канкурэнтнай палітычнай сістэмы", у якой партыі і кандыдаты могуць бесперашкодна рэгістравацца і весці перадвыбарчую кампанію, а выбаршчыкі — рабіць свабодны і свядомы выбар.

Беларусь падала заяўку на ўступленне ў Раду Еўропы ў 1997 годзе, але з-за адсутнасці дэмакратычнага прагрэсу гэты працэс быў замарожаны на шмат гадоў. Тым не менш правы і свабоды беларускага народа застаюцца блізкімі нашаму сэрцу, і, нягледзячы на тое, што гэтыя выбары былі глыбока расчаравальнымі, мы працягваем з нецярпеннем чакаць таго дня, калі ў Беларусі цалкам возьмуць верх еўрапейскія дэмакратычныя каштоўнасці.

Таму Асамблея будзе ўважліва сачыць за сітуацыяй, у прыватнасці праз свой Камітэт па палітычных пытаннях і дэмакратыі».

**Страсбург, 10.08.2020 Парламенцкая асамблея Рады Еўропы**

## Вялікабрытанія заклікае ўрад Беларусі ўстрымацца ад далейшага гвалту і паважаць правы беларускага народа

**Па заканчэнні прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь і пасля спробаў беларускіх уладаў здушыць пратэсты міністр МЗС Вялікабрытаніі Джэймс Дадрыдж заявіў:**

— Вялікабрытанія заклікае ўрад Беларусі ўстрымацца ад далейшых актаў гвалту пасля вельмі дыскрэдытаваных прэзідэнцкіх выбараў. Прымяненне сілы і спробы беларускіх уладаў падавіць пратэсты з'яўляюцца недапушчальнымі.

У дадатак да арыштфаваў апазіцыйных кандыдатаў, журналістаў і мірных дэманстрантаў на працягу ўсяго выбарчага працэсу адзначалася відавочная адсутнасць празрыстасці. Мы занепакоеныя тым, што няздольнасць Беларусі своечасова накіраваць запрашэнне не дазволіла Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека і Радзе Еўропы назіраць за выбарчым працэсам. Таксама непрымальным з'яўляецца той факт, што супрацоўнікі брытанскай амбасады і іншыя чальцы дыпламатычнай супольнасці былі пазбаўленыя магчымасці выконваць свае абавязкі ў якасці паўнавартасна акрэдытаваных незалежных назіральнікаў за выбарамі.

На працягу ўсёй выбарчай кампаніі мы былі сведкамі таго, як беларускі народ патрабаваў дэмакратыі, асноўных свабодаў і права вызначаць сваю будучыню ў незалежнай, суверэннай Беларусі. Вялікабрытанія разам са сваімі міжнароднымі партнёрамі будзе і надалей заклікаць урад Беларусі выконваць свае міжнародныя абавязацельствы і падтрымліваць памкненні свайго народа.

# Ад санкцый да заклікy падаць у адстаўку

Алег НОВІКАЎ

**Рэакцыя міжнароднай супольнасці на падзеі ў Беларусі яўна выйшла за межы традыцыйнага выказвання «глыбокай заклапочанасці».**

У свой час у сеціве была папулярная карыкатура, на якой падначаленыя рапартуюць шараговаму лацінаамерыканскаму генералу-дыктатару добрую навіну: «The Times (вельмі ўплывовы часопіс на Захадзе) перастаў называць наш рэжым "дыктатура!" Цяпер мы "краіна з аўтарытарным стылем кіравання!"».

Малюнак як ніколі актуальны для нашай дыпламатыі. Калі нічога не зменіцца, дыпламатам ведамства Макея давядзецца бліжэйшым часам змагацца за тое, каб Беларусь у заходніх медыя прынамсі не ўзгадвалі ў азначэннях «дыктатура».

І ўжо цяжка сказаць, калі адносіны з Захадам змогуць вярнуцца на ўзровень гэтай вясны, калі Мінск наведаў кіраўнік Дзяржэпу ЗША Майк Пампеа. Нагадаем, што на той час правал інтэграцыйных кансультацый з Масквой яўна выклікаў у некаторых заходніх палітыкаў намер выцягнуць Беларусь з расійскай зоны ўплыву. Як вынік — тэма парушэнняў грамадзянскіх правоў у Беларусі адышла на старонках заходніх медыя на другі план. Затое ахвотна і пазітыўна згадвалася ўпартае нежаданне Мінска прызнаваць анексію Крыма і самаабвешчаныя Абхазію і Паўднёвую Асецію. Станоўча ацэньвалася місія Беларусі ў справе вырашэння канфлікту на Данбасе.

У кабінетах беларускай адміністрацыі, у сваю чаргу, падаецца, нарадзілася геніяльная ідэя — утрымаць рэжым за кошт балансавання на лініі геапалітычных супярэчнасцяў Захаду і Масквы. Таму апошнім часам мы сталі сведкамі серыі незвычайна агрэсіўных вербальных атак Лукашэнкі на адрас Крамля, кульмінацыяй якіх стала «справа вагнераўцаў».

Сёння можна дакладна казаць, што канцэпцыя геапалітычнай «неваляшкі» аказалася фантомам. Ацэнкі выбараў 9 жніўня на Захадзе настолькі жорсткія, што шчыльныя партнёрскія кантакты на бліжэйшы час амаль не праглядаюцца. У дачыненні да беларускага рэжыму ўжываюцца такія эпітэты, як «карупцыйны», «недэмакратычны» і гэтак далей.

Такая лексіка прысутнічае ў заявах з боку Парламенцкай асамблеі Еўропы, генеральнага сакратара NATO Ёнса Столтэнберга, Дзяржэпартамента ЗША, які абвясціў выбары ў Беларусі несвабоднымі і несправядлівымі і заклікаў улады Беларусі не ўжываць сілу да пратэстоўцаў. Прэзідэнты Польшчы і Літвы ў сумеснай заяве заклікалі беларускія ўлады «цалкам вызнаць дэмакратычныя стандарты, адмовіцца ад гвалту і паважаць асноўныя свабоды і правы чалавека».

Нават Уладзімір Зяленскі, якому звычайна ўласцівыя карэктныя характарыстыкі палітычных працэсаў у паўночнага суседа, не ўтрымаўся. «Ужо цяпер відавочна, што не ўсё ў краіне (Беларусь) згодныя з папярэднімі вынікамі выбараў. А, як вядома, любая легітымнасць — вынік узаемнага даверу. Выключна даверу. Сумневы ў такіх маштабах — гэта просты шлях да гвалту, канфлікту, сумеснага пратэсту, які будзе толькі нарастаць», — заявіў украінскі прэзідэнт.

У якасці падставы для пералічаных вышэй высноваў фігуруюць шматлікія парушэнні апошняй прэзідэнцкай кампаніі: сур'ёзныя абмежаванні па допуску кандыдатаў да агітацыі, забарона допуску мясцовых незалежных назіральнікаў на ўчасткі, метады запалохвання апазіцыйных кандыдатаў, затрыманні мірных пратэстоўцаў і журналістаў і іншае.

Трэба прызнаць, што толькі крытыкай справы ўжо не абмяжавалася. Так, зноў на гарызонце замаячылі санкцыі супраць беларускай адміністрацыі, якія ў свой час намагаліся змякчыць. Чальцы камітэта сената ЗША па замежнай палітыцы абяцаюць вярнуцца да санкцыйнага ціску на чыноўнікаў Беларусі «за напад на дэмакратыю».

Арыгінальную прапанову ў сувязі з палітычным крызісам у Беларусі зрабіў польскі прэм'ер Матэуш Маравецкі. Варшава прапануе кіраўніцтву ЕС правесці надзвычайны саміт, прысвечаны сітуацыі ў нашай краіне, якая склалася пасля выбараў. «Польшча нясе адказнасць за сваіх суседзяў. Мы павінны салідарна падтрымаць беларусаў у іх жаданні стаць свабоднымі», — тлумачыць прэм'ерская прэс-служба матывы кіраўніка офісу.

Далей за ўсіх пайшлі ў Вашынгтоне, дзе беларускаму кіраўніку ўвогуле прапануюць напісаць заяву «па асабістым жаданні». Кіраўнік камітэта Сената ЗША па міжнародных справах Джым Рыш заклікаў Аляксандра Лукашэнку пайсці ў адстаўку, калі яго пераабранне акажацца недэмакратычным. «Спадар Лукашэнка павінен дазволіць сапраўдны падлік вынікаў учорашняга галасавання і сысці, калі ён не быў пераабраны дэмакратычным шляхам. Ён таксама павінен неадкладна спыніць падаўленне СМІ, адключэнне інтэрнэту, арышты і гвалт супраць тых, хто дамагаецца іншага шляху для Беларусі. Мірная перадача ўлады жыццёва неабходная для будучыні Беларусі і яе суверэнітэту», — гаворыцца ў пісьмовай заяве палітыка, на якой справа, напэўна, не скончыцца. Няма сумневаў, што беларускае пытанне становіцца значным у заходняй палітычнай павестцы.

Натуральна, такі высокі градус негатыву на адрас Мінска патэнцыйна стварае рызыкі новага «прыліву любові» да брацкай Масквы, дзе афіцыйныя вынікі галасавання лічаць «адпавядаючымі карэнным інтарэсам брацкіх народаў Расіі і Беларусі». Аднак, гледзячы на тон расійскай прэсы, нават у мясцовым істэблішменце разумеюць: адзіная будучыня, якую можа прапанаваць Лукашэнка — гэта працяг той рэальнасці, якая існуе. Але беларускую рэальнасць у тым выглядзе, як яна склалася за мінулыя гады, ужо аб'ектыўна цяжка захаваць не тое што на доўгую, але нават і на сярэднюю перспектыву.



Фота www.tut.by



© Imago Images/Eibner

# Партыя «антыкаранцін»

Алег НОВІКАЎ

**Прывід гуляе па Еўропе — прывід партыі, якая змагаецца супраць санітарных абмежаванняў з прычыны пандэміі.**



Спачатку была незадаволенасць у інтэрнэце, пасля моладзевыя хлявалванні і пратэстныя музычныя вечарынкі, цяпер справа дайшла да маштабных маніфестацый супраць абмежаванняў, якія еўрапейскія ўлады ўводзяць у межах барацьбы з інфекцыяй.

Апошняя гучная акцыя «каронаідыётаў» (так вельмі часта называе гэту публіку прэса) здарылася ў Берліне. Амаль дваццаць тысяч чалавек дэфілявалі пад Брандэнбургскімі варотамі, пратэстуючы супраць вяртання жорсткіх правіл каранціну. Урад Меркель цяпер не выключае іх вяртання праз новы рост захворванняў і магчымую другую хвалю эпідэміі.

Менавіта таму, відавочна робячы тролінг з чыноўнікаў, удзельнікі акцыі таксама называюць свой рух «другая хваля». Прычым, як вызнаюць эксперты, удзельнікі «другой хвалі» прадстаўляюць увесь спектр грамадства — ад старых пенсіянераў да маладых сем'яў. Усе яны сабраліся, каб падтрымаць лозунгі 46-гадовага бізнесоўца са Штутгарта Міхаэля Балвега. З красавіка ён намагаецца рознымі акцыямі і петыцыямі давесці, што меры ўраду супраць каронавіруса супярэчаць параграфам Канстытуцыі. Ідэя сапраўды пайшла ў народ. Як ілюстрацыя — 225 тысяч еўра, якія простыя бюргеры ахвяравалі Балвегу на яго актыўнасць.

Аднак гэта, падаецца, толькі пачатак. Рух супраць каранціну, на думку спецыялістаў, імкліва набывае рысы палітычнага праекта — аж да магчымага паўстання тэматычнай партыі. Як лічаць спецыялісты, для гэтага ёсць умовы. У людзей назіраецца вялізарны асабісты дыскамфорт з-за пандэміі, якая можа, дарэчы, зацягнуцца надоўга. Пастаянны стрэс, выкліканы санітарнымі захадамі і жорсткімі патрабаваннямі, прыводзіць да жадання пратэставаць у тым ліку ў форме галасавання.

Пры гэтым старыя партыйныя структуры ў прынцыпе рытуальна падтрымліваюць каранцінныя мерапрыемствы, паколькі арыентуюцца на меркаванні медыкаў-спецыялістаў. Як вынік — у грамадстве ўзнікае запыт на палітыкаў, якія пратэстуюць супраць рознага кшталту штрафаў за адсутнасць маскі (у ФРГ, дарэчы, ён можа дасягаць тысячы еўра) або парушэнне рэжыму самаізаляцыі.

Тым больш, што знешне «другая хваля» нагадвае рух эколагаў 1970-х гадоў. Пад універсальнымі лозунгамі абароны навакolля і барацьбы з мірным атамам тады збіралася сацыяльна стракатая публіка, якая магла галасаваць за розныя партыі. Ніхто не падазраваў, што з часам тусоўка трансфармуецца ў сапраўдную партыю, якая праз гадоў дзесяць уключыцца ў барацьбу за міністэрскія партфелі.

Не забыўся і феномен «партый піратаў» — прыхільнікаў некамерцыйнага і вольнага інтэрнэту. Прыкладна дзесяць гадоў таму яны па-кавалерыйску ўварваліся ў шматлікія еўрапейскія парламенты. Праўда, хутка мода на «піратаў» прайшла. Тым не менш, там-сям, напрыклад, у Чэхіі, «піраты» застаюцца вельмі ўплывовай сілай. Дык чаму б праціўнікам каранціну як мінімум не паўтарыць вопыт «піратаў»?

Што за гулец можа з'явіцца на еўрапейскай палітычнай сцэне, калі праціўнікі каранціну, аб'яднаўшыся, высунуць палітычныя патрабаванні? На думку палітолагаў, хутчэй за ўсё, партыі антыкаранціну будуць нагадваць іншыя папулісцкія праекты, праўда, не з такімі моцнымі ксенафобскімі канатацыямі.

Разынкай партыйных дактрын крытыкаў каранціну будуць рознага кшталту канспіратыўныя тэорыі паходжання хваробы. Як вядома, шмат хто лічыць каронавірус вынаходкай алігарха Біла Гейтса, які, маўляў, планаваў зрабіць гешэфт на продажы вакцыны. Карыстаецца папулярнасцю і версія пра сакрэтную аперацыю кітайскіх камуністаў, якія з дапамогай вірусу вырашылі знішчыць Захад. Наўрад ці «каронаідыёты» надоўга прапішуцца на палітычнай сцэне, аднак іх з'яўленне можа стаць прыкметай скарачэння масавай лаяльнасці.

Магчыма, ужо ўвосень мы даведаемся, наколькі вартыя тэорыі пра паўстанне партый «каронаідыётаў». У кастрычніку адбудуцца выбары бургамістра Штутгарта, у якіх таксама вырашыў удзельнічаць той самы Міхаэль Балвег. Калі ў гэты час урад пачне ўводзіць абмежаванні праз прыход другой хвалі пандэміі, у Балвега сапраўды з'явіцца шанец.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмамалі Рахмон



Кіраўнік Таджыкістана ад 1992 года нечакана для ўсіх прызначыў пазачарговыя прэзідэнцкія выбары на 11 кастрычніка 2020 года. Такое рашэнне было аператыўна падтрыманае на пазачарговай сесіі верхняй і ніжняй палат Маджлісі Олі (мясцовы парламент).

Прызначэнне выбараў за месяц да заканчэння паўнамоцтваў дзеючага кіраўніка мясцовыя назіральнікі разглядаюць як хітры ход для таго, каб прывесці да ўлады свайго сына Рустама Эмамалі, які вясной стаў спікерам верхняй палаты парламента. Такім чынам ён, згодна з Канстытуцыяй, з'яўляецца другой асобай у рэспубліцы і становіцца пераемнікам прэзідэнта ў выпадку сыходу таго з пасады па любой з магчымых прычын.

Зрэшты, бліжэйшым часам транзіту ўлады сыну чакаць не варта. Шмат хто ў краіне лічаць, што сын Рахмона замалады, а ўлічваючы мясцовую ментальнасць, гэта можа выклікаць занадта вялікае раздражненне ў асяроддзі мясцовай эліты. Таму Рахмон пакуль будзе сам кіраваць краінай. Што тычыцца грамадства ў цэлым, на думку экспертаў, то яно будзе пакуль мірыцца са сцэнарамі гаранта. Тут адыгрываюць значную ролю два фактары: пасляваенны сіндром: «абы не было вайны», які сфарміраваўся па слядах грамадзянскай вайны пачатку 1990-х гадоў, і выезд за межы краіны значнай часткі актыўнага насельніцтва.

Зрэшты, да 9 жніўня тое самае казалі і пра беларускую сітуацыю. А пакуль Рахмон загадзя пачаў перадвыбарчую кампанію. Ужо больш за месяц раз'язджае па рэгіёнах, і ў тым ліку раздае народу парады. У адным з раёнаў кіраўнік вучыў гаспадынь, як правільна наразаць гародніну.

### Эмануэль Макрон



Прэзідэнт Францыі сутыкнуўся з незвычайнай просьбай. Грамадзяне Лівана, які доўгі час быў пратэктаратам Францыі, хочуць зноў быць французскай калоніяй. Дзясяткі тысяч ліванцаў нават падпісалі петыцыю, якая заклікае вярнуць Францыі мандат на кіраванне Ліванам.

Французскі мандат на Ліван, нагадаем, дзейнічаў з 1920 па 1943 год. Дзіўнае жаданне вярнуцца пад ярмо Парыжу паўстала не на голым месцы. Яно перш за ўсё выклікана моцным эканамічным крызісам у краіне і наступствамі нядаўняга выбуху ў Бейруце, які забіў 130 чалавек. Матэрыяльны ўрон ад выбухаў ацэньваецца ў 10–15 мільярдаў долараў. Прычым, уласных грошай на аднаўленне ў Лівана няма.

У выніку французскі гарант быў вымушаны неяк рэагаваць на просьбы ліванцаў, і наведаў Бейрут, дзе яго сустракалі з вялізарным энтузіязмам. Зразумела, пра вяртанне мандату над Ліванам гаворкі падчас візіту не было. Макрон паабяцаў хіба што бліжэйшымі днямі правесці міжнародную канферэнцыю для дапамогі Лівану з удзелам Сусветнага банка, ЕС і іншых інстытутаў. Акрамя таго, французскі лідар прывёз у Бейрут прапановы аб заключэнні новай дамовы паміж ліванскімі палітыкамі.

### Ван І



Кіраўнік МЗС КНР і яго ведамства абвясцілі пра санкцыі супраць амерыканскіх палітыкаў. Рашэнне Пекіну стала адказам на ўвядзенне Мінфінам ЗША санкцый супраць 11 чыноўнікаў КНР і Ганконга.

Санкцыі супраць афіцыйных асобаў КНР (забарона на ўезд у ЗША, арышт рахункаў і актываў і інш.) тлумачацца тым, што гэтыя кітайскія і ганконгскія чыноўнікі «падрывалі аўтаномію Ганконга і абмяжоўвалі свабоду выказвання і сходаў грамадзян», у прыватнасці, выкарыстоўвалі для гэтых мэтаў новы закон аб абароне нацыянальнай бяспекі Ганконга. У кітайскі «чорны спіс», які стаў люстэркавым адказам Вашынгтону, увайшла група ўплывовых сенатараў, якія на працягу апошніх месяцаў вялі рэй у Кангрэсе ЗША, патрабуючы ад Трампа максімальна жорсткіх мераў супраць Пекіну. Характэрна, што, у адрозненне ад амерыканскіх санкцый, сэнс кітайскіх санкцый не раскрываецца.

Не саступаючы ціску Захаду, Пекін таксама адначасова дэманстратыўна працягнуў закручваць гайкі ўнутры самога Ганконга. Тут быў арыштаваны вядомы алігарх, які падтрымлівае мясцовую апазіцыю: ён абвінавачваецца ў падрыве нацыянальнай бяспекі і змове з замежнымі сіламі. «Паліцэйская аперацыя працягваецца, і колькасць арыштаў можа ўзрасці», — гаворыцца ў заяве праваахоўных органаў Ганконга, а гэта гарантуе новую серыю амерыканска-кітайскага супрацьстаяння.

# Самыя масавыя акцыі пратэсту ў Беларусі за апошнія 30 гадоў

## Найноўшая гісторыя Беларусі ведала ўжо шмат пратэстаў, судоў і гумавых дручкоў

### Першы масавы антыкамуністычны мітынг

30 кастрычніка 1988 года ў БССР прайшоў першы масавы антыкамуністычны мітынг. Кіраваў ім грамадска-палітычны рух БНФ «Адраджэньне». Удзельнікі мітынгу накіраваліся на паўночна-ўсходнюю ўскраіну Мінска да ўрочышча Курапаты, гэты мітынг праходзіў на Дзяды. На чале калоны быў Зянон Пазьняк.

Супраць удзельнікаў акцыі пратэсту ўлады БССР даслалі міліцыю і ўнутраныя войскі. Для разгону дэманстрацыі ўжывалі слезацечны газ «Чаромха».

Паводле розных ацэнак, у мітынгу ўдзельнічалі 15–20 тысяч чалавек.

— Мы на ўласныя вочы бачылі, як ужываўся гвалт у дачыненні да людзей, як іх пачалі хапаць і цягнуць у «варанкі». Як моладзь скандавала: «Вандэя!». Запомнілася такая карцінка: дзяўчына на плячах у хлопца размахвае сцяжком і звонкім дзявочым голасам выкрыквае: «Вандэя!» — у адказ на заклік палкоўніка, які ўсё звяртаўся да людзей, каб яны разыходзіліся. І гэты дзявочы крык дружная падхопліваўся маладымі людзьмі, — расказваў паэт Анатоль Вярцінскі.

Журналіст і палітык Сяргей Навумчык у матэрыяле на «Радыё Свабода» ўспамінаў словы Міхаіла Гарбачова: «Як так здарылася, што беларусы выйшлі супраць савецкай улады? Спакойны, дысцыплінаваны народ».

### Першы дазволены мітынг

19 лютага 1989 года ў Мінску на стадыёне «Дынама» прайшоў мітынг БНФ, ён быў дазволены ўладамі, таму ніякіх разгонаў не было. Тады на мітынгу сабралася каля 40 тысяч чалавек. Выступаў Зянон Пазьняк, людзі прыходзілі з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Акцыя ў лютым 1989 года стала вядомая як «мітынг у падтрымку перабудовы».

— Мы ўсе ў шапках зімовых, хаця, паводле дэмакратычнага этыкету, шапку, звяртаючыся да людзей, трэба здымаць. Але не ўсе здымалі, таму што можна было мазгі адмарозіць. Але народ трываў, слухаў, не сыходзіў. Таму што гэта было абсалютна беспрэцэдэнтнай падзеяй, таму што да таго нічога падобнага ў савецкі час не было, — распавядаў адзін з заснавальнікаў БНФ Вінцук Вячорка.

У той дзень на мітынгу выступалі таксама паэт і бард Сяржук Сакалоў-Воюш, Віктар Івашкевіч, Сяржук Вітушка, Вячаслаў Жыбуль.

### Мітынгі рабочых у 1991-м

У 1991 годзе ў Мінску прайшла серыя забастовак рабочых. Актыўны ўдзельнік страйку рабочых у красавіку 1991 года, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1990–1995 гадоў) Сяргей Антончык распавядае, што гэтыя мітынгі пачаліся раптоўна ў красавіку, у адказ на рэзкае павышэнне коштаў. Колькасць мітынгоўцаў была 40–100 тысяч чалавек.

Рабочыя, са слоў Антончыка, мітынгавалі 14 дзён бесперапынна і выходзілі на плошчу Леніна (цяпер плошча Незалежнасці) кожны дзень. У той час быў створаны рэспубліканскі страйкавы камітэт, а забастоўкі ахапілі і іншыя гарады. Напрыклад, у Воршы была паралізаваная праца цэлага чыгуначнага вузла.

— У красавіку 1991 года на страйк выйшлі тры заводы: электратэхнічны, шасцерняў і завод аўтаматычных ліній. Рабочыя перакрылі дарогу і зладзілі спантанны мітынг. Пайшоў слых, што заводы спыніліся, перакрытая вуліца Казлова, не ходзяць трамваі і ідзе спантанны мітынг — і на другі дзень выйшаў трактарны завод і аўтамабільны завод. Былі перакрытыя чыгуначныя шляхі ў Оршы, не ішлі цягнікі ў Расію, таму што аршанскі вузел быў паралізаваны. Забаставаў Салігорскі калійны камбінат, з Салігорска дэлегацыя гарнякоў ішла ў Мінск пешшу. Больш за 100 заводаў страйкавалі і выходзілі на вуліцу. Мітынг ішоў бесперапынна, людзі разыходзіліся ўвечары, раніцай прыходзілі на працу, зноў выстройваліся калонай і выходзілі на плошчу, — успамінае Сяргей Антончык.

### «Мінская вясна» 1996-га

Першай акцыяй 1996-га было 15 сакавіка — Дзень Канстытуцыі. Але яна была не настолькі шматлюднай. 24 сакавіка 1996 года мінчукі выйшлі на традыцыйную акцыю да Дня Волі, яе арганізаваў БНФ, а ўзначаліў асабіста Васіль Быкаў. Акцыя праходзіла напярэдадні падпісання першых інтэграцыйных пагадненняў з Расіяй і вылілася ў цэлую серыю масавых пратэстаў. Пазней гэтыя пратэсты ўвойдуць у гісторыю як «Мінская вясна».

Па розных дадзеных, у несанкцыянаваным шэсці па праспекце Скарыны (цяпер — Незалежнасці) бралі ўдзел ад 15 да 30 тысяч чалавек. Некалькі разоў яны прарывалі кардоны міліцыі і ўступілі ў сутыкненне са спецназам каля тэлецэнтра і будынка КДБ.

Былі ацэнкі, што ішло больш за 70 тысяч удзельнікаў. Калі людзі стаялі каля тэлецэнтра на Камуністычнай, для разгону задзейнічалі спецназ, унутраныя войскі.

Самай масавай і жорсткай акцыяй стаў «Чарнобыльскі шлях» 26 красавіка. Напярэдадні ў сталіцы распаўсюджваліся чуткі, што для падаўлення пратэстаў у Мінск можа быць закінуты расійскі спецназ.

Ацэнкі колькасці ўдзельнікаў адрозніваюцца — ад 30 да 60 тысяч чалавек. У Мінск тады прыехалі ўкраінскія нацыяналісты з УНА-УНСО, і, па словах удзельнікаў акцый і журналістаў, менавіта яны пераварочвалі міліцэйскія машыны на знакамітым кадры з той акцыі.

Сілавікі ўжывалі супраць пратэстоўцаў гумавыя дручкі, газ, паўсюль былі бойкі. Падчас акцыі затрымалі сотні людзей.

### Пратэсты 1997-га

1–2 красавіка 1997 года ў Мінску праходзілі акцыі ў сувязі з падпісаннем пагаднення аб стварэнні Саюза Беларусі і Расіі. Журналістка Любоў Лунёва ўспамінае акцыю 2 красавіка, калі ў раёне расійскай амбасады пачаліся сутыкненні ўдзельнікаў мітынгу з сілавікамі, міліцыя ўжывала гумавыя дручкі, у той дзень збілі і журналістку Ірыну Халіп.

— Я ніколі не забуду аднаго мужчыну. Каля расійскай амбасады пачаўся разгон, а там паміж вуліцамі Максіма Багдановіча і Куйбышава былі двухпавярхоўкі, і выходзіць мужык ва ўзросце, у шлёпанцах, з сабачкам, пытаецца ў спецназаўца: «А што тут адбываецца?» Яны за яго — і ў машыну, а сабака застаўся. Мы вырашылі знайсці яго кватэру і адвесці сабаку дадому, дзверы адчыняе жанчына, глядзіць — сабака, пытаецца, а дзе Коля. А Колю забраў спецназ. Яна кажа: «Дый добра, мы ж з ім сварымся, бо ён за Лукашэнку, а я супраць. Як яго маглі забраць?» У выніку гэтаму Колю таксама далі штраф, нават не спытаўшы, што ён там рабіў падчас затрымання і не даўшы нічога растлумачыць. З тых часоў Коля і хадзіў на акцыі пратэсту як на працу.

### «Марш Свабоды» 1999-га

17 кастрычніка 1999 года ў Мінску прайшоў «Марш Свабоды». У ім удзельнічала больш за 30 тысяч чалавек, арганізатары планавалі сабрацца на плошчы Якуба Коласа і правесці шэсце па праспекце Францыска Скарыны да плошчы Незалежнасці, аднак улады забаранілі рух па гэтым маршруце, калону адправілі на Бангалор у парк Дружбы народаў. Пасля мітынгу ў парку ўдзельнікі акцыі пайшлі ў цэнтр горада, дайшлі да плошчы Перамогі, затым па вуліцах Казлова і Змітрака Бядулі, шэсце дасягнула вуліцы Першамайскай.

— Людзі ішлі па трамвайных шляхах па вуліцы Першамайскай, і вось яны спускаліся ў раёне парку Горкага і цяперашняга рэстарана «Камяніца» і як толькі яго прайшлі, унізе перад мостам стаялі вельмі сур'ёзныя кардоны міліцыі. На рагу была складзеная тратуарная плітка, і пратэстоўцы пачалі гэтай пліткай кідацца ў міліцыю, міліцыянты спачатку адступілі, але потым ірванулі наперад, быў вельмі жорсткі разгон дэманстрантаў. Нават потым па тэлевізары паказвалі кадры, як людзі проста скакалі ў Свіслач, уцякаючы ад міліцыі. Вельмі шмат людзей вылоўлівалі ў парку Горкага, — распавядае Сяргей Грыц.

— У нейкі момант выскачылі салдаты і сталі перакрываць шэрагі пратэстоўцаў, удзельнікі пратэсту прарвалі шэрагі. Людзі дайшлі ўжо да моста ў раёне парку Горкага, і з таго боку вуліцы былі падцягнутыя ўсе сілы: стаяла міліцэйскае начальства, шчыльныя шарэнгі, спецназ… Я памятаю гэтую кучу бруку, пратэстоўцы яе бралі і сталі кідаць, а маладыя міліцыянты яе ўздымалі і кідалі назад. Потым пачалася зачыстка, раз'юшаныя сілавікі кінуліся з дручкамі і білі ўсіх, хто трапляўся пад руку. Мне так шарахнуў адзін па руцэ і дыктафону, што яго давялося рамантаваць, праўда, гук аднавіўся. Людзей адціснулі да рачулкі, там іх збівалі з ног, цягнулі за валасы. Была дама ў малінавым капялюшыку і палітончыку, дык вось яе пацягнулі прама за валасы, а капялюшык застаўся на зямлі. Яна крычала, што ў яе 2-я група інваліднасці, маўляў, што вы робіце, але гэта было бессэнсоўна, — успамінае журналістка Любоў Лунёва.

Пасля гэтага маршу былі распачатыя крымінальныя справы, судзілі Мікалая Статкевіча, Валерыя Шчукіна, некалькі маладых людзей таксама трапілі ў СІЗА на вуліцы Валадарскага.

### Плошча–2006

19 сакавіка 2006 года на плошчу выйшлі нязгодных з вынікамі выбараў, людзі скандавалі лозунгі «Жыве Беларусь», «Ганьба ўладам!», «Свабоды і праўды!». Паводле апазіцыі, тады на плошчу прыйшло каля 30 тысяч пратэстоўцаў. Нягледзячы на тое, што людзям прыходзілі СМС з папярэджаннем, што рыхтуюцца правакацыі і будуць ахвяры, і на тое, што па перыметры Кастрычніцкай плошчы на дахах сядзелі, не тояючыся, снайперы.

Менавіта тады, у сакавіку 2006-га, на плошчы ўдзельнікі акцыі пратэсту разбілі намётавае мястэчка, лагер праіснаваў трое сутак.

У ноч з 23 на 24 сакавіка намётавае мястэчка ліквідавалі. Тады на Кастрычніцкай знаходзілася 35 намётаў і прыкладна 500 чалавек. Калі намётавы лагер раскідалі, усё падчышчала камунальная машына. Усіх непаўнагадовых затрыманых адпусцілі. Астатніх удзельнікаў акцыі супрацоўнікі розных спецпадраздзяленняў МУС сілай прымусілі сесці ў аўтобусы, якія пад'ехалі да месца падзей. Усяго, паводле праваабаронцаў, падчас ліквідацыі намётавага мястэчка ў Мінску былі затрыманыя больш за трыста чалавек.

25 сакавіка была акцыя пратэсту, і пасля мітынгу ў скверы Янкі Купалы людзі пайшлі выказаць салідарнасць з тымі, хто на Акрэсціна. Разгон пачаўся на плошчы Багушэвіча, дзе калону сустрэлі сілавікі. Пры разгоне выкарыстоўвалі шумавыя гранаты і іншыя спецсродкі.

### Плошча–2010

19 снежня 2010 года дзясяткі тысяч людзей выйшлі на вуліцы Мінска, пратэстуючы супраць традыцыйнага выніку прэзідэнцкіх выбараў. Гэта была адна з найбольш масавых акцыяў пратэсту, якая ўвайшла ў гісторыю як «Плошча–2010». Паводле розных ацэнак, на вуліцы сталіцы выйшлі ад 15 да 40 тысяч чалавек.

У цэнтры Мінска акцыя пратэсту пачала збірацца яшчэ да абвяшчэння вынікаў галасавання. Удзельнікі, сярод якіх былі і кандыдаты ў прэзідэнты, выступалі за правядзенне паўторных выбараў — без удзелу Аляксандра Лукашэнкі. Акцыя пачалася на Кастрычніцкай плошчы, але потым людзі пайшлі па праспекце Незалежнасці да Дома ўрада, міліцэйскі спецназ брутальна зачысціў плошчу за сем хвілін, а сотні людзей аказаліся арыштаваныя, дзясяткі — трапілі за краты па справе аб масавых беспарадках.

Усяго, паводле ацэнак праваабаронцаў, у тую ноч былі затрыманыя каля 800 чалавек, у тым ліку журналісты. Частку затрыманых пакаралі штрафамі і суткамі за адміністрацыйныя правапарушэнні. 49 чалавек, у тым ліку некалькіх экс-кандыдатаў у прэзідэнты, у 2011 годзе асудзілі па справе аб масавых беспарадках, многія атрымалі турэмныя тэрміны.

### Свята Волі–2018

Звычайна на Дзень Волі праходзяць мітынгі. Аднак 25 сакавіка 2018 года на плошчы Парыжскай Камуны каля Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску прайшоў святочны канцэрт у гонар 100-годдзя БНР. Канцэрт быў дазволены гарадскімі ўладамі. Паводле звестак арганізатараў, усяго ў нядзелю праз пляцоўку свята прайшло каля 50 тысяч чалавек (лічачы тых, хто выходзіў за турнікеты і вяртаўся).

Але нават у гэты дзень не абышлося без затрыманняў. Напрыклад, відавочцы паведамлялі, што супрацоўнікі органаў аховы парадку не дазвалялі пакідаць пляцоўку людзям з бел-чырвона-белай сімволікай, патрабуючы прыбраць сцяжкі. Акрамя таго былі затрыманыя ўдзельнікі пратэсту на плошчы Якуба Коласа.

**У матэрыяле выкарыстаны артыкул Наталлі Беніцэвіч, TUT.BY**

# Форс-мажор, ці Становішча па-за гульнёй

Сяргей КАЙКО

**У краіне гарачыя паслявыбарчыя жарсці, і спартыўнае жыццё нібыта сіметрычна ўтаймавалася. Не, ніякай забастоўкі няма і блізка, але прынамсі футбольны чэмпіянат залёг у кароткую спячку. На бліжэйшы ўік-энд гульняў не запланавана.**

Гэта гісторыя — не пра палітыку, проста так складзены каляндар, у якім час ад часу трэба прадугледжваць «фарткі» на перадах. Але ж увогуле без палітыкі цяпер не абышлося. Яе ўгледзела футбольная федэрацыя — і, падзьмуўшы на ваду, пачала экстранна разграбаць гульнявы графік. Бо «як бы чаго не выйшла»...

Усё пачалося яшчэ на мінулым тыдні і, натуральна, да галасавання 9 жніўня. Набліжаліся матчы чарговага, 21-га тура, заўзятары іх чакалі і звыкла рабілі стаўкі. Але калі вы ўжо зазірнулі ў тэхнічныя даныя ўнізе старонкі, то ведаеце: дзве гульні так і не адбыліся. Гаворка пра мінскія двубоі, у якіх павінны былі сысціся сталічнае «Дынама» са «Смалявічамі» ды «Мінск» з мазырскай «Славіяй».

Пажар у Доме футбола, што знаходзіцца на праспекце Пераможцаў, палыхнуў пасля паста ў сацсетках вядомага актывіста і блогера Антона Матолькі. Ён толькі і зрабіў, што запрасіў усіх ахвочых у суботу на стадыён «Дынама», дзе планавалася тая самая сустрэча аднайменнага клуба са «Смалявічамі». Маўляў, прыходзьце, людзі, квіткі яшчэ ёсць.

І людзі заахвоціліся, пачалі юзаць сайт адпаведнага білетнага аператара. Попыт быў высокі — і, здаецца, меліся нават шанцы на аншлаг на 22-тысячнай арэне. Чаму? Усё проста. Напярэдадні ў Салігорску гулялі «Шахцёр» і брэсцкае «Дынама». Гаспадары перамаглі 1:0, але не гэта прынесла матчу розгалас. У сецыве, якое на той момант яшчэ працавала, шырока разышліся кадры, дзе шчыльна запоўненыя трыбуны стадыёна «Будаўнік» гучна скандуюць папулярны вокліч «Жыве Беларусь!»

Паралельна з гэтым са звыклымі нацыянальнымі асаблівасцямі ў краіне працягвалася датэрміновае галасаванне. А аб'яднаны штаб на чале са Святланай Ціханоўскай імкнуўся працягваць агітацыйную кампанію, аднак што ж ты зробіш... Ва ўсіх пляцоўках у розных гарадах, дзе галоўныя апаненткі дзеючай улады мелі намер правесці пікеты, пачало адбывацца нешта таямніча булгакаўскае. То трубу прарве, то мясцовыя камунальныя службы вырашаць заняцца добраўпарадкаваннем тэрыторыі, то раптам узнікне патрэба адсвяткаваць дзень Чыгуначных войскаў. І куды ні кінь — і няма куды законапаслухмянаму электарату пайсці, каб адчуць плячо і локаць адзін аднаго ды праявіць салідарнасць.

А тут якраз футбол. У самым цэнтры Мінска. І трубы на стадыёне «Дынама» моцныя, бо нядаўна ж была капітальная рэканструкцыя, на якую грошай не шкадавалі. І квіткі танныя, і надвор'е «шэпча». Чаму б ні схадзіць, паколькі асаблівага выбару не засталося?

Схадзіць не атрымалася. Бо спачатку сайт продажу білетаў перастаў адказваць на запыты, а потым сваё важкае слова сказала федэрацыя.

Узважыўшы ўсе фактары і акалічнасці, у БФФ вырашылі, што футбол у бягучую карціну свету неяк зусім не ўпісваецца. І імем цэлага бюро выканкама федэрацыі вынеслі ідэалагічна правільны вердыкт — матч адмяніць, перанесці яго на сёння, 14 жніўня. Пры гэтым яшчэ далёка не факт, што дынамаўцы са смалявічцамі згуляюць паводле новага раскладу.

Сваё рашэнне Дом футбола абгрунтаваў у спецыяльным прэс-рэлізе, зрабіўшы цьмяную спасылку на «форс-мажорныя абставіны». Лагічным чынам (і, можна сказаць, прычэпам) пад забарону трапіла і другая сталічная гульня — «Мінск» супраць «Славіі». Ну а як жа, «Трактар» — таксама вялікі стадыён, ён разлічаны на 17 тысяч, і акустыка там неблагая.

З гэтым матчам увогуле звязаны асобны сюжэт. Спачатку гульню смела перанеслі на сераду, 12 жніўня, верагодна, вырашыўшы, што да гэтага часу сітуацыя ў краіне ўлагодзіцца.

Але дзе там. 80-працэнтная перамога Аляксандра Лукашэнкі спарадзіла хвалю пратэстаў па ўсёй Беларусі. Дакацілася яна і да новага «часу ікс». І стала зразумела, што дату гульні зноў трэба пасоўваць. І пасунулі — цяпер, каб не памыліцца, на нявызначаны тэрмін.

Але і гэта яшчэ не ўсё. У сераду чакаўся яшчэ адзін матч чэмпіянату — брэсцкае «Дынама» супраць «Слуцка». Гэта наогул сустрэча даўно мінулага 17-га тура. Яна не адбылася з прычыны ўсё тых жа форс-мажорных абставін — у брэсцкай камандзе здарылася ўспышка каронавіруса. Тое было ў ліпені, і тады гульню перанеслі на 12 жніўня. Аднак жа і Брэст — горад буйны, і ў гэтыя дні неспакойны. І народ там на футбол ходзіць з вялікім жаданнем. Таму, відаць, каб пазбавіць заўзятараў вядомых палітычных спакусаў, гэты футбол таксама вырашылі адкласці на потым — дата зноў жа пакуль не вызначаная.

Такія справы — і за імі губляюцца падзеі матчаў, якія ўсё ж такі адбыліся. А там і «Нёман» страціў балы, і жодзінскае «Тарпеда», і БАТЭ здабыў перамогу, і былі рэзанансныя судзейскія памылкі. Пра ўсё гэта варта было б пагаварыць, калі б лічбы на табло не адышлі на другі план.

А ў выходныя, дарэчы, пара матчаў усё ж адбудзецца. У 1/16 Кубка краіны суботнім вечарам у Наваполацку плануецца гульня «Нафтана» з «Гарадзеяй», а ў Гомелі мясцовы аднайменны клуб чакае ў госці «Шахцёр». Пакуль усё ў сіле, але хто яго ведае, як атрымаецца на справе. Часы сёння занадта непрадказальныя.

### Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 21-га ТУРА:** 6.08. БЕЛШЫНА (Бабруйск) — СЛУЦК — 4:2 (Рэкіш, 10, 50, Глябко, 20, Салімаў, 27 — Бураеў, 62, з пенальці, Сірыма, 82). ШАХЦЁР (Салігорск) — ДЫНАМА (Брэст) — 1:0 (Падстрэлаў, 79). 7.08. ВІЦЕБСК — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:3 (Матвеенка, 37, Назаранка, 76 — Юсаў, 13, Януш, 50, Макась, 65). 8.08. ЭНЕРГЕТЫК–БДУ (Мінск) — НЁМАН (Гродна) — 1:1 (Свірэпа, 12 — Жукоўскі, 47). РУХ (Брэст) — ТАРПЕДА–БЕЛАЗ (Жодзіна) — 3:3 (Грачыха, 16, Шаўчэнка, 65, Васільеў, 78, з пенальці — Рамас, 19, з пенальці, Анцілеўскі, 58, Хачатуран, 70). БАТЭ (Барысаў) — ГАРАДЗЕЯ — 1:0 (Скавыш, 1). МІНСК — СЛАВІЯ (Мазыр), ДЫНАМА (Мінск) — СМАЛЯВІЧЫ — матчы перанесеныя.

**22-гі ТУР:** 21.08. Слуцк — Дынама Мн., Іслач — Шахцёр. 22.08. Энергетык–БДУ — Смалявічы, Гарадзея — Рух, Дынама Бр. — Белшына. 23.08. Славія — Віцебск, Тарпеда–БелАЗ — Мінск, Нёман — БАТЭ.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | М | П | Н | П | М | А | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 21 | 12 | 7 | 2 | 36-9 | 43 |
| 2. | БАТЭ | 21 | 12 | 4 | 5 | 42-21 | 40 |
| 3. | Нёман | 20 | 11 | 5 | 4 | 25-14 | 38 |
| 4. | Тарпеда–БелАЗ | 21 | 9 | 7 | 5 | 31-26 | 34 |
| 5. | Іслач | 21 | 10 | 2 | 9 | 29-29 | 32 |
| 6. | Энергетык–БДУ | 21 | 9 | 4 | 8 | 28-31 | 31 |
| 7. | Рух | 21 | 7 | 9 | 5 | 30-23 | 30 |
| 8. | Дынама Мн. | 20 | 9 | 3 | 8 | 22-14 | 30 |
| 9. | Данама Бр. | 19 | 9 | 2 | 8 | 32-23 | 29 |
| 10. | Віцебск | 21 | 7 | 8 | 6 | 22-22 | 29 |
| 11. | Славія | 19 | 6 | 5 | 8 | 26-36 | 23 |
| 12. | Слуцк | 20 | 6 | 3 | 11 | 23-35 | 21 |
| 13. | Гарадзея | 21 | 5 | 5 | 11 | 18-32 | 20 |
| 14. | Мінск | 18 | 5 | 3 | 10 | 19-36 | 18 |
| 15. | Белшына | 21 | 4 | 4 | 13 | 22-40 | 16 |
| 16. | Смалявічы | 19 | 3 | 5 | 11 | 20-34 | 14 |

# Звязаныя адной мэтай

Сяргей КАЙКО

**У еўракубках беларускія клубы згуляюць са старымі знаёмымі.**




Беларуса Івана Маеўскага чакае сустрэча з землякамі ў Лізе чэмпіёнаў

Як паведамляў НЧ у мінулым нумары, днямі ў швейцарскім Ньёне прайшла жараб'ёўка футбольных еўракубкаў. Яе чакалі ў тым ліку ў Беларусі, бо кваліфікацыя Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы ёсць свайго кшталту кульмінацыя ўсяго сезону. А ад таго, з кім давядзецца гуляць, у вялікай ступені залежыць поспех усёй міжнароднай кампаніі.

У гэтым сэнсе, трэба адзначыць, брэсцкае «Дынама» напаткаў не самы горшы лёс. У першым адборачным раўндзе беларускія чэмпіёны сустрэнуцца з казахстанскім клубам «Астана» з Нур-Султана. Так, супернік моцны, што, у прыватнасці, раней адчулі на ўласнай скуры футбалісты БАТЭ. У мінулыя гады барысаўчане двойчы спрачаліся з астанінцамі за перамогу (апошні раз — непасрэдна ў 2019-м), і ў абодвух выпадках саступалі. Але цяпер, як кажуць, ёсць нюансы. І яны на карысць беларусаў.

У Казахстане, у адрозненне ад Беларусі, крытычна асцярожнае стаўленне да пандэміі каронавіруса. Там даўно няма ні парадаў, ні аніякіх іншых масавых мерапрыемстваў. Няма і футболу — у сакавіку, ледзьве пачаўшыся, нацыянальны чэмпіянат сышоў на працяглыя вакацыі. І ўжо пяць месяцаў мясцовыя футбалісты амаль не маюць практыкі. Хутка яна ўжо з'явіцца — рэстарт першынства павінен адбыцца ў гэтыя выходныя, аднак так ці інакш фізічная кандыцыя «Астаны» ў жніўні, мякка кажучы, не аптымальныя. І гэта дае Брэсту адчувальны шанец на перамогу.

Варта памятаць, што ў складзе «Астаны» ёсць і нашы хлопцы — два гульцы зборнай Беларусі Іван Маеўскі і Макс Эбанг. І што яшчэ важна: праз усё той жа каронавірус лёс кваліфікацыйных супрацьстаянняў сёлета будзе вызначацца не ў двух, а толькі ў адным матчы. І яго брэсцкае «Дынама» правядзе на сваім полі. Гульня адбудзецца 18 жніўня на стадыёне «Брэсцкі».

Цікава, што вядомы ўжо расклад і на наступны этап кваліфікацыі. Пераможца пары «Дынама» (Брэст) — «Астана» сустрэнецца з пераможцам гульні «Конах Куэй» (Уэльс) — «Сараева» (Боснія і Герцагавіна).

Датычна Лігі Еўропы інфармацыя таксама з падтэкстам. Жэраб склаўся так, што беларусы зноў правядуць двубой з польскім «Пястам». Летась з заходнімі суседзямі гуляў у Лізе чэмпіёнаў усё той жа БАТЭ. І хоць з вялікімі цяжкасцямі, але перамог. Цяпер гэты іспыт чакае мінскае «Дынама». І ён таксама будзе складацца з аднаго матча, які пройдзе на беларускай тэрыторыі. Гэта мусіць дапамагчы камандзе Леаніда Кучука, аднак у цэлым фаварытам пары з'яўляецца хутчэй усё ж польскі клуб. З жараб'ёўкай мінчанам не надта пашанцавала — магло б быць лягчэй.

Лягчэй, напрыклад, салігорскаму «Шахцёру». Пры ўсёй павазе да малдаўскага клуба «Сфынтул-Георге», яго хлопцы Юрыя Вернідуба павінны праходзіць. Менавіта яны фаварыты, бадай, па ўсіх паказчыках, дый зноў жа — адзіны матч гэтай стадыі салігорцы правядуць 27 жніўня на сваім полі.

Нагадаем, што ў Лізе Еўропы гэтым разам згуляе і БАТЭ. Але за кошт высокага індывідуальнага рэйтынгу барысаўчане распачнуць барацьбу з другой кваліфікацыйнай стадыі. Адпаведна, і пра свайго апанента яны даведаюцца пазней.

І яшчэ. Усе матчы — у Брэсце, Салігорску і Мінску — пройдуць без гледачоў. Прычына на паверхні — пандэмія. Што ж, не забудзьцеся ўключыць тэлевізар.

# БагатаДата

**На гэтым тыдні мы адзначаем гадавіну заснавання знакамітай Горацкай земляробчай школы і пачатак перамоваў, якія падзялілі Беларусь на БССР і Заходнюю. Што яшчэ адбывалася ў мінулым гэтымі днямі?**

## 15 жніўня

**Дзень археолага** і **Сусветны дзень беспрытульных жывёлаў.**



**1840.** Адчынілася Горы-Горацкая земляробчая школа — цяпер гэта Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія.

**1860.** У Станькаве (вёска ў Дзяржынскім раёне на Міншчыне) нарадзіўся дзяржаўны дзеяч, прадпрымальнік, філантроп ды мінскі гарадскі галава Караль Чапскі. Дзякуючы яму быў дабудаваны Мінскі тэатр, запрацаваў трамвай-конка, гарадская электрастанцыя і тэлефонная станцыя агульнага карыстання. Таксама Чапскі вядомы адкрыццём піваварнага завода «Багемія» — цяпер гэта «Аліварыя».

**1940.** У расійскім Мурманску нарадзіўся палітык і дыпламат Аляксандр Сурыкаў. Пасол Расіі ў Беларусі цягам тузіна гадоў — з 2006-га па 2018-ты.

**1960.** У Баранавічах на Брэстчыне нарадзіўся музыка Ігар Варашкевіч. Лідар рок-гуртоў «Бонда» ў 1980-х гадах і «Рокіс», які затым стаў вядомай многім «Крамай».

## 16 жніўня

**Дзень ваенна-паветраных сілаў.** Адзначаецца ў трэцюю нядзелю жніўня.

**1925.** У вёсцы Дубравіца Клімавіцкага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся дзяржаўны дзеяч Беларусі Міхаіл Кавалёў. Працаваў старшынёй Мінскага гарвыканкаму, а ў другой палове 1980-х гадоў — старшынёй Савета Міністраў БССР.

**1935.** У вёсцы Залессе Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся мовазнавец Аляксандр Падлужны. На працягу многіх гадоў — дырэктар Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі.

Займаўся праблемамі сучаснай беларускай мовы і сацыялінгвістыкі, у раздзелах беларускай фанетыкі і фаналогіі, сучаснай беларускай лексікалогіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы, моўнай палітыкі. Аўтар больш за 150 навуковых прац, у т.л. 16 манаграфій.

У 1990-я гады быў намеснікам старшыні Дзяржаўнай камісіі па ўдасканаленні беларускага правапісу і кіраўніком рабочай групы па падрыхтоўцы праекту новай рэдакцыі «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Пад яго кіраўніцтвам былі складзеныя «Высновы» камісіі з апісаннем асноўных падыходаў да змянення існуючых правапісных норм, і праект новай рэдакцыі «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (праект асвятляўся ў друку каля 2000—2002, але не ажыццяўляўся).

Лічыцца заснавальнікам беларускай фанетычнай школы.

## 17 жніўня

**1920.** У Мінску пачаліся мірныя перамовы паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Пазней іх перанеслі ў Рыгу, дзе яны скончыліся вядомай Рыжскай дамовай, якая падзяліла нашу краіну на Заходнюю Беларусь і БССР.

## 18 жніўня

**1900.** У крымскай станіцы Варэнікаўская нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Анатоль Ананьеў. У 1937–1938 гадах быў намеснікам старшыні СНК (ураду) БССР. У 1940-м рэпрэсаваны і асуджаны на 20 гадоў зняволення. У 1954-м пасмяротна рэабілітаваны.

## 19 жніўня

**Сусветныя дні фатаграфіі** і **гуманітарнай дапамогі.**



**1926.** У вёсцы Залессе Вілейскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Сяргей Якубоўскі. Удзельнік антысавецкага падполля ў другой палове 1940-х гадоў. Кіраўнік маладзечанскага філіялу арганізацыі «Чайка».

## 20 жніўня

**1945.** Пастановай СНК БССР у Мінску быў заснаваны Беларускі дзяржаўны тэатральны інстытут (цяпер гэта Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

## 21 жніўня

**Міжнародны дзень памяці ахвяраў тэрарызму.**

**1800.** У Вільні нарадзіўся публіцыст, мемуарыст, сябра Таварыства філаматаў Францішак Геранім Малеўскі. Распрацаваў статут Таварыства філарэтаў і быў абраны віцэ-прэзідэнтам арганізацыі. Сын рэктара Віленскага ўніверсітэта Сымона Малеўскага. Сябар Адама Міцкевіча, жонкі якіх былі сёстрамі, і Аляксандра Пушкіна.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1350

Падпісана да друку 13.08.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.